ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (47) люты 2015 год
CATHOLICNEWS.BY



## Біскуп, які загінуў падчас святой Імшы

Стар. 2

## Беларускія біскупы абражаныя выказваннямі чыноўнікаў

Стар. 5



## Можно ли наказывать детей?

Стар. 14



## Уполномоченный по религии обвинил ксендзов-поляков в занятии политикой

Стар. 4



## Колькі беларускія вернікі даюць на ахвяру ў касцёле?

Стар. 9

## Хору “Ave Maria” ў Глыбокім – 15 год

Стар. 3





# Оскар Рамэра – мучанік з Сальвадора

**Як паведамляе “Беларуская служба Ватыканскага радыё, 3 лютага 2015 г. Папа Францішак упаўнаважыў кардынала Анжэла Амата, прэфекта Кангрэгацыі па справах кананізацыі, да публікацыі дэкрэтаў, якія датычаць прызнання мучаніцкай смерці і гераічнасці цнотаў трох кандыдатаў на беатыфікацыю. Сярод іх і сальвадорскі арцыбіскуп Оскар Арнульфа Рамэра-і-Гальдамес.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*



Асоба Оскара Рамэры асаблівым чынам прыцягвае да сябе ўвагу ў кантэксце абвастрэння сацыяльных праблем у сучасным свеце і безабароннасці перад імі бедных пластоў грамадства, на што пастаянна звяртае ўвагу і Рымскі Пантыфік, які таксама з’яўляецца прадстаўніком грамадстваў Лацінскай Амерыкі.

## Бедная краіна са святой назвай

Сальвадор* – гэта невялікая краіна ў Цэнтральнай Амерыцы, якая з’яўляецца найменшай па плошчы і найбольшай па шчыльнасці насельніцтва ў рэгіёне (на 21 тыс. кв. км. жыве каля 7 млн. чал.). Узровень злачыннасці тут – адзін з самых высокіх у Лацінскай Амерыцы, а колькасць забойстваў – самая высокая ў свеце на душу насельніцтва (гэты “рэкорд” утрымліваецца на працягу апошняга дваццацігоддзя). У канцы 1970-х гадоў камбінацыя эканамічных і палітычных фактараў – падаўленне іншадумства сілавымі метадамі, грубыя падтасоўкі на выбарах, уціск апазіцыйнай прэсы, змяненне рэгіянальнай сітуацыі ў сувязі з Сандыніцкай рэвалюцыяй у Нікарагуа – прывяла ў краіне да пачатку грамадзянскай вайны паміж ваенным рэжымам, які затым змяніў правацэнтрысцкі ўрад, і “левымі” палітычнымі групамі.




Каталіцкае духавенства ў гэтай сітуацыі таксама займала актыўную пазіцыю. Яскравым выразнікам меркаванняў Касцёла і абаронцам сацыяльнай справядлівасці выступаў арцыбіскуп Сан-Сальвадора Оскар Арнульфа Рамэра-і-Гальдамес. З нябачаным раней радыкалізмам ён выступаў супраць беднасці, сацыяльнай няроўнасці, забойстваў і катаванняў, што зрабіла яго вядомым і па-за межамі краіны.

> **“У той жа час у Сальвадоры з'явіліся ўлёткі з надпісам “Будзь патрыётам! Забі святара!””**

У 1979 г. у выніку перавароту да ўлады ў краіне прыйшла «ваенна-грамадзянская хунта». У адрас арцыбіскупа сталі паступаць частыя пагрозы. Ён выступіў з асуджэннем ЗША за прадастаўленне ваеннай дапамогі новаму ўраду і ў лютым 1980 г. напісаў Джыму Картэру, што павелічэнне ваеннай дапамогі з боку ЗША «абвострыць несправядлівасць і рэпрэсіі», накіраваныя супраць людзей, якія часта змагаюцца за элементарныя чалавечыя правы. Урад ЗША, не жадаючы, каб Сальвадор стаў другой Нікарагуа, дзе распачалося гарачае супрацьстаянне паміж дзвюма групоўкамі, ніяк не адгукнуўся на заклікі арцыбіскупа. У той жа час з'явіліся ўлёткі з надпісам “Будзь патрыётам! Забі святара!”

## Забойства падчас Імшы

24 сакавіка 1980 г. падчас богаслужэння ў капліцы бальніцы «Божага провіду» стрэлам у галаву арцыбіскуп Рамэра-і-Гальдамес быў забіты. Трагедыя сталася праз дзень пасля казання, у якім святар заклікаў сальвадорскіх салдат як пабожных хрысціянаў спыніць гвалт і парушэнні правоў чалавека. Як вынікае з аўдыёзапісу Імшы, ён быў забіты ў той час, калі трымаў Найсвяцейшы Сакрамант. Пасля стрэлу кроў заліла алтар… Вынікам гэтага стаў усеагульны 8-дзённы страйк, на пахаванне прыбылі 45 іерархаў Каталіцкага Касцёла, сабралася больш за 250 тыс. чалавек з розных краін свету. Падчас цырымоніі на плошчы перад саборам выбухнула бомба, пасля чаго пачуліся стрэлы. У распачатай цісканіне загінулі некалькі дзясяткаў чалавек. Забойства арцыбіскупа стала перадумовай грамадзянскай вайны ў Сальвадоры.

## Прыклад біскупа Рамэры патрэбны сёння Касцёлу

Пастулатар працэсу беатыфікацыі арцыбіскуп Вінчэнца Палья бачыць асаблівы знак у тым, што арцыбіскуп Оскар Рамэра будзе беатыфікаваны першым у гісторыі Папамлацінаамерыканцам, “Папам, які просіць Касцёл быць бедным для бедных, а гэта менавіта тое, чым жыў Рамэра аж да праліцця крыві”. Гэты чалавек, дадаў арцыбіскуп Вінчэнца Палья, “з’яўляецца для нас сведкам любові, якая ў сваёй крайняй праяве, аддаючы жыццё, перамяняе свет і дае надзею. Ён заўсёды быў побач з самымі беднымі і слабымі, з людзьмі “напалову мёртвымі”, прычым да такой ступені побач з імі, што памёр сам”, быў “чалавекам малітвы, чалавекам Божым і чалавекам Касцёла, чалавекам Святога Пісання і глыбокіх традыцый, вернікам, які абраў жыццё сярод беднякоў, ведаючы, што Валадарства Божае, як казаў Езус, знаходзіцца паміж самых бедных і побач з імі. Гэтае вучэнне набліжае асобу Рамэры да многіх сучасных пакутнікаў і да Папы Францішка, які імкнецца ўсіх нас прыцягнуць на гэты шлях блізкасці і любові да найбяднейшых”, – адзначаецца ў паведамленні Ватыканскага радыё.

Кожная эпоха мае пэўную характэрную адметнасць у хрысціянскай пабожнасці і духоўнасці. Кіруючыся галоўнай запаведдзю любові, у канкрэтных гістарычных абставінах дзеці Касцёла, наследуючы прыклад свайго Пана, знаходзяць той шлях жыцця і сведчання веры, якога ў дадзены момант ад іх чакае Бог. Арцыбіскуп Оскар Арнульфа Рамэра-і-Гальдамес з’яўляецца прыкладам веры нашага часу, прыкладам для кожнага з дзяцей Касцёла. Той факт, што гэты прыклад узносіцца на алтар, сведчыць пра важнасць такога сведчання менавіта ў нашым часе. Гэты прыклад для нас у тым, каб рабіць усё, што магчыма, дзеля справядлівасці вакол нас, а магчымасці нашыя заўсёды большыя, чым гэта можа здавацца на першы погляд.

## Біяграфія

Оскар Рамэра нарадзіўся 15 жніўня 1917 г. у шматдзетнай сям'і тэлеграфіста Сантаса Рамэры і Гуадалупе дэ Хесус Гальдамес. 4 красавіка 1942 г. у Рыме быў высвечаны на святара, атрымаў прызначэнне ў муніцыпалітэт Анаморас, але затым пераехаў у Сан-Мігель, дзе на працягу 20 гадоў служыў парафіяльным святаром. Затым быў прызначаны рэктарам Міждыяцэзіяльнай семінарыі ў Сан-Сальвадоры. У 1966 г. абраны сакратаром епіскапальнай канферэнцыі Сальвадора. Таксама стаў галоўным рэдактарам дыяцэзіяльнай газеты Orientación.

У 1970 г. быў прызначаны дапаможным біскупам Сан-Сальвадора. У снежні 1975 г. прыняў прызначэнне біскупам дыяцэзіі Сант'яга-дэ-Марыя. 23 лютага 1977 г. стаў арцыбіскупам Сан-Сальвадора.

24 сакавіка 1980 г. быў забіты стрэлам у галаву.

У жніўні 2014 г. Папа Францішак афіцыйна дазволіў пачаць працэс беатыфікацыі.

*Сальвадор па-іспанску азначае “Збаўца”.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Іван Каптур** *(Браслаў)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н)*, **Марыя Матус** *(Валожын)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Марыя Кісель** *(Глыбокае)*, **Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Соф’я Якімовіч** *(в. Мосар, Глыбоцкі р-н)*, **парафіяне з Пастаў**, **Яніна Спургяш** *(в. Бярозаўка, Лідскі р-н)*, **Анастасія Орсік** *(в. Бярозаўка, Лідскі р-н)*, **Станіслава Смірнова** *(в. Бярозаўка, Лідскі р-н)*, **Крысціна Шыхалай** *(Глыбокае)*, **Вацлава і Наталля Скрага** *(г.п. Падсвілле)*, **Святлана Бадзюл** *(Паставы)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **Ян Кулік** *(в. Мікелеўшчына, Мастоўскі р-н)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Руфіна Адамовіч** *(в. Паўяцце, Мёрскі р-н)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н)*, **Зося Калматовіч** *(г.п. Варапаева, Пастаўскі р-н)*, **Тэрэса Наўроцкая** *(Ліда)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Шчыры дзякуй! Будзьма разам!

**Рэдакцыя**
**“Каталіцкага Весніка”**

# Юбілей хору ў Глыбокім







**Пятнаццацігоддзе свайго існавання адзначыў акурат 15 лютага хор "Ave Maria" пры парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім.**

**Таццяна Смоткіна**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

Гэты калектыў неаднаразова ўдзельнічаў у разнастайных айчынных і міжнародных фэстах і конкурсах. Ва Усебеларускім конкурсе на лепшую песню да 500-годдзя Будслаўскай святыні перамог твор у выкананні хору "Ave Maria". Песню "Будслаўская Божая Маці" напісалі мясцовы паэт Віталь Гарановіч і ўдзельніца хору Ганна Шакола.

Ініцыятарам і натхняльнікам хору быў ксёндз Пётр Врубель, які з'яўляўся ў той час (а гэта было ў 2000-ым годзе) пробашчам Глыбоцкай парафіі. Цяпер хор складаецца з васямнаццаці ўдзельнікаў – людзей рознага ўзросту і розных прафесій, якіх аб'ядноўвае любоў да Бога, да музыкі і спеваў.

Узначальвае хор Ніна Казлоўская. У рэпертуар калектыву ўваходзяць творы класічнай духоўнай музыкі, а таксама рэлігійныя песні замежных і айчынных аўтараў, якія выконваюцца на беларускай, польскай і лацінскай мовах.

Парафіяльны хор "Ave Maria" – пастаянны ўдзельнік нядзельных і іншых святочных набажэнстваў у касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім, а таксама фэстаў і ўрачыстасцяў у розных парафіях Беларусі і замежжа.

Паводле слоў Ніны Казлоўскай, шмат за гэты час напісана песень і музыкі. Але ёсць яшчэ да чаго імкнуцца, у прыватнасці, існуе запатрабаванасць у запісе дыскаў. Пра гэта просяць шматлікія слухачы.

# У Румыніі пабудавана і асвечана экуменічная царква з лёду

**У Румыніі святары розных канфесій асвяцілі царкву, цалкам пабудаваную з лёду.**

Царква лічыцца ўнікальнай не толькі з пункту гледжання архітэктуры, але і як месца праявы рэлігійнай талерантнасці. Так званая "ледзяная царква" была адноўлена на гары, размешчанай на паўночным захадзе ад Бухарэста. Да яе можна дабрацца толькі па канатнай дарозе, падняўшыся на вышыню 2000 метраў.

Будынак, што з'яўляецца копіяй старажытнай царквы ў Трансільваніі, узведзены са спілаваных глыбаў лёду, змацаваных паміж сабой пры дапамозе вады і снегу.

Кожную зіму "ледзяную царкву" будуюць і асвячаюць нанова. Святары праводзяць у ёй абрады хросту і шлюбу.

Відавочна, царква стала асаблівым месцам, якое дае магчымасць пакінуць убаку рэлігійныя адрозненні і ўмацаваць верацярпімасць у людзях.

*katolik.ru*



# Уполномоченный по делам религий обвинил ксендзов-поляков в занятии политикой

**Некоторые ксендзы-иностранцы пытаются заниматься в Беларуси политикой. Об этом заявил 22 января Уполномоченный по делам религий и национальностей Леонид Гуляко на заседании, посвященном итогам работы госорганов по делам религии и национальностей в 2014 году и задачам на 2015 год.**

«Некоторые ксендзы из Польши пробуют заниматься политикой. Им не нравится наша страна, наши законы, руководство. В таких случаях мы не согласовываем продление их пребывания в нашей стране. Мы не против приглашения иностранных священнослужителей. Ни на православных, ни на католических, ни на других храмах не должны висеть замки. Если священнослужители востребованы и нужны, мы всегда это поддерживаем. Но мы всегда подчеркиваем, что они должны заниматься теми вопросами, для которых их пригласили в страну, ради которых они ехали и подписывали соглашения с религиозными объединениями», – сказал Леонид Гуляко.

Уполномоченный сообщил, что в 491 приходе Римско-Католической церкви (РКЦ) в Беларуси служат более 430 священнослужителей, из которых 113 – иностранные граждане, как правило, из Польши. В 2005 году в католических храмах страны служили 202 иностранца. Государство ориентирует РКЦ на сокращение числа иностранных священнослужителей с учетом того, что в Беларуси действуют 4 католических учебных заведения. «Кстати, в Гродненской семинарии обучается всего лишь 27 человек, а в Пинской – 19. Прием в 2014 году составил 2 и 3 человека соответственно. Складывается впечатление, что руководство Римско-Католической церкви не заинтересовано в подготовке своих кадров», – отметил Гуляко.

Более того, в 2014 году отдельные католические клирики, служение которых в Беларуси было согласовано, не въехали в страну в положенные сроки и не прошли регистрацию в органах внутренних дел в качестве священнослужителей. «А некоторые за год пребывают за границей 340 дней, а числятся священнослужителями конкретных культовых учреждений», – добавил Гуляко. Есть и такие нарушения, как проведение богослужений вне тех регионов, где конкретному иностранному ксендзу было разрешено служение. Остается актуальной языковая проблема. Не всегда ксендзы-иностранцы в полном объеме владеют каким-либо из государственных языков Беларуси.

Есть и факты административных правонарушений, которые совершают, прежде всего, ксендзы из Польши. «Это и пьянство, за рулем в том числе. Некоторые за 10 лет умудрились совершить 12 административных правонарушений», – констатировал уполномоченный. Он подчеркнул, что вряд ли бы такой священнослужитель из Беларуси смог долго пробыть в Польше.

Что касается католической академии, которую РКЦ намерена создать в Минске, то Леонид Гуляко отметил: «Мы только регистрируем устав. Если кто-то говорит, что государство не поддерживает открытие этой академии, то это звучит неправильно. Государство за открытие. Но когда вносят документы, где сказано, что собираются открыть академию на 50 кв.м в составе курии, то извините. Это уже даже не смешно. Представьте высшее духовное учебное заведение на 50 кв. м… Я уже не говорю, что по уставу студенты, обучающиеся в этой академии, обязаны жить в этом же здании. Это их устав, а не наш», – пояснил уполномоченный.

*tut.by*

# Беларускія вернікі збіраюць подпісы пад адкрытым лістом да Прэзідэнта

**У каталіцкіх парафіях усёй Беларусі вернікі збіраюць подпісы пад адкрытым лістом Прэзідэнту краіны – адказам на заявы з боку афіцыйных асобаў з абвінавачваннямі ў адрас Касцёла, у прыватнасці, адносна дзейнасці святароў з Польшчы.**



У звароце гаворыцца: “Выказваем сваю занепакоенасць і незадаволенасць дзеяннямі некаторых чыноўнікаў, а менавіта Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце Міністраў Беларусі Леаніда Гулякі. Мы лічым, што стаўленне спадара Гулякі да Касцёла неаб’ектыўнае і прадузятае. Каталіцкі Касцёл – гэта не нейкая замежная арганізацыя, а мы – грамадзяне Беларусі”. У звароце падкрэсліваецца, што выступ Леаніда Гулякі 22 студзеня стаў “апошняй кропляй”: “Мы не можам больш маўчаць. Гэта не што іншае, як крытыка без фактаў. Яна расцэньваецца намі як абраза вернікаў, нашых пастыраў і нашых рэлігійных пачуццяў. Мы лічым, што падобнымі выступамі Леанід Гуляка ўносіць разлад у адносіны Касцёла і дзяржавы, нагнятае міжканфесійную варожасць”.

У лісце таксама адзначаецца, што “сёння Каталіцкі Касцёл у Беларусі адыгрывае важную ролю ў выхаванні дзяцей і моладзі, у захаванні сямейных каштоўнасцяў, падтрымцы адзінокіх і пажылых людзей. Развіваецца і павялічваецца сацыяльная і дабрачынная дзейнасць”.

Рэлігіязнаўца і кандыдат філасофскіх навук Віктар Адзіночанка заўважае, што выказванне спадара Гулякі было даволі нечаканым: “У апошнія гады ўзаемаадносіны паміж дзяржавай і рэлігійнымі арганізацыямі ідуць у рэчышчы ўзаемнай павагі, талерантнасці, міжканфесійнага дыялогу. Не думаю, што гэта тыя выказванні, якія займаюць асноўнае месца ў стаўленні дзяржавы да Каталіцкага Касцёла. Але яны прагучалі, і, безумоўна, вернікі нейкім чынам павінны былі на гэта адрэагаваць. Наогул, патрэбна зрабіць, каб чыноўнікі з большай павагай ставіліся да людзей, не толькі да вернікаў, але і да ўсіх жыхароў Беларусі. І каб чыноўнікі ўлічвалі рэакцыю грамадства, калі яны робяць нейкія заявы. І ў дадзеным выпадку некаторыя элементы непавагі ў гэтых выказваннях ёсць”, – лічыць эксперт.

Рэлігіязнаўца тлумачыць, чаму ў першай палове 1990-х, калі пачалося адраджэнне Касцёла ў Беларусі, сюды прыехала шмат святароў з Польшчы: “Гэта абумоўлена тым, што ў Беларусі святароў амаль не было, і людзі прыехалі дапамагаць наладжваць тут жыццё. І яны зрабілі вельмі шмат не толькі для католікаў, але наогул для мясцовых людзей. Яны пачалі займацца дабрачыннасцю. Напрыклад, у Гомелі было вельмі шмат зроблена. Гэта дзейнасць сясцёр Маці Тэрэзы – праца з найбольш беднымі людзьмі, шматдзетнымі сем’ямі. А таксама Дзіцячая вёска для сірот-інвалідаў”, – сказаў спадар Адзіночанка.

Таксама суразмоўца адзначыў, што могуць быць, безумоўна, і некаторыя недахопы ў працы польскіх святароў у Беларусі, але пра гэта нельга казаць у такім тоне і ў такім кантэксце, як гэта зрабіў спадар Гуляка: “Такія пытанні павінны вырашацца ў рабочым парадку. Калі б сп. Гуляка звярнуўся да біскупа і сказаў: той ці іншы святар робіць нешта не так, такой бы рэакцыі не было, і не было б уражання, што адносна Каталіцкага Касцёла ў Беларусі вядзецца беспадстаўная крытыка”, – лічыць эксперт.

Віктар Адзіночанка падкрэсліў, што чыноўнікам і грамадству варта пазбавіцца ад схемы “Праваслаўная Царква – гэта руская, а Каталіцкая – палякі, што гэта нейкі польскі інстытут”. Бо большасць католікаў у Беларусі – гэта па нацыянальнасці беларусы. А святарам, што прыехалі з Польшчы, трэба сказаць “дзякуй” за іх самаадданую дзейнасць у даволі цяжкіх умовах у параўнанні з Польшчай.

Вернікі, што падпісаліся пад адрытым лістом, па-рознаму тлумачаць сваю пазіцыю. Шматдзетная маці Святлана лічыць, што нейкія падзелы ў рэлігійным кантэксце проста недарэчныя: “Маё жыццё пачало наладжвацца дзякуючы таму, што я хаджу ў касцёл, дзякуючы святарам. Я лічу, што няма розніцы, католік ты ці праваслаўны. Я не разумею такой палітыкі, што католікі – гэта Польшча. Я беларуска, мае дзеці беларусы, я хаджу ў беларускі храм. Я супраць тых словаў, што польскія святары тут зарабляюць нейкія грошы ці нешта гавораць не тое. Яны прыносяць людзям карысць і служаць для людзей”, – сказала жанчына.

Святарам з Польшчы ўдзячны і спадар Уладзімір: “Я таксама паставіў свой подпіс пад зваротам, бо мяне не задаволілі словы Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей аб нейкай “падрыўной” дзейнасці Каталіцкага Касцёла наогул і ў прыватнасці святароў з Польшчы. На самай справе польскія святары аказваюць дапамогу нашаму беларускаму Касцёлу, і дзякуй Богу, што такую магчымасць мы маем”.

Вернік Іван таксама лічыць беспадстаўнымі выказванні беларускага чыноўніка: “Я бачу, якія цудоўныя справы робяць ксяндзы, што прыехалі з Польшчы, колькі ў іх энергіі, як яны адраджаюць каталіцкую веру. Такіх фактаў, што тут вядзецца нейкая палітычная агітацыя, проста не было. Казанні, якія гавораць польскія святары, накіраваныя на адраджэнне сям’і, беларускага грамадства, але ніяк не на нейкія палітычныя тэмы”.

Абураная заявамі спадара Гулякі і парафіянка Вольга Яўсеенка. “Ніякіх канкрэтных фактаў, прозвішчаў, нічога нідзе не называлася, толькі агульныя словы. Мне як парафіянцы слухаць гэта было непрыемна. Вялікія справы адбыліся ў нашым горадзе, у Пінскай дыяцэзіі дзякуючы прыезду святароў з Польшчы. Мы бачылі вялікія прыклады вернасці Богу, адраджэння Касцёла пасля больш чым 70 гадоў занядбання, ахвяраванняў за веру. Чаму не гаворыцца пра добрыя, вялікія з’явы ў нашай краіне, якія адбыліся дзякуючы Каталіцкаму Касцёлу? Спадзяюся, што будуць нейкія іншыя выказванні, больш станоўчыя і больш праўдзівыя”.

***Алена Германовіч,***
***Павел Міцкевіч,***
*Пінская дыяцэзія*
*паводле Ватыканскага радыё*
*(Друкуецца са скарачэннямі)*

# Біскупы Беларусі абражаныя выказваннямі чыноўнікаў

## Заява Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі

**Каталіцкія Біскупы Беларусі на пазачарговым пленарным пасяджэнні 30 студзеня 2015 г. абмеркавалі агучаныя ў апошні час абвінавачванні ў адрас польскіх святароў, якія служаць у Беларусі, а таксама ў незацікаўленасці кіраўніцтва Каталіцкага Касцёла ў падрыхтоўцы сваіх святароў.**

Мы, як і вернікі-католікі, з глыбокай заклапочанасцю ўспрымаем гэтыя абвінавачванні, якія лічым неабгрунтаванай абразай Каталіцкага Касцёла і распальваннем міжнацыянальнай і міжканфесійнай варожасці.

У 1989 г. у Беларусі служыла каля 60 мясцовых святароў. Цяпер іх колькасць узрасла да 360, г.зн. павялічылася ў шэсць разоў. Няўжо гэта не паказчык таго, што наш Касцёл прыкладае шмат намаганняў у справе падрыхтоўкі мясцовых святароў? Праблема ў тым, што ў савецкія часы ў Беларусі з-за адсутнасці семінарыі не было магчымасці падрыхтоўкі новых святароў. Дзякуй Богу, сёння гэта магчыма, але таксама трэба памятаць і пра тое, што святарства – гэта не прафесія, а пакліканне, і ніякай сілай нікога нельга пасляць у семінарыю.

Наш Касцёл усё яшчэ мае патрэбу ў дапамозе святароў з замежжа. Але мы адраджаем беларускі Касцёл, і святары з замежжа займаюцца пастырскай дзейнасцю сярод грамадзян нашай краіны, дабрачыннасцю, будуюць і аднаўляюць святыні, якія яны з сабою не забяруць, але пакінуць тут. Без іх дапамогі шматлікія вернікі застануцца без пастырскай апекі.

Мы запрашаем дапамагаць святароў і з іншых краін, але ў сувязі з агульным недахопам іх колькасці гэта практычна немагчыма рэалізаваць. У асобных выпадках некаторыя святары, якія мелі магчымасць прыехаць, не атрымалі дазволу на служэнне.

Таму мы звярнуліся да Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Л.П.Гулякі з просьбай прадставіць канкрэтныя факты па выказаных абвінавачваннях і з прапановай у будучыні прадметна абмяркоўваць падобныя праблемы непасрэдна з намі.

Нягледзячы на пэўныя цяжкасці, мы выказваем надзею на працяг канструктыўнага, у духу дыялогу, развіцця адносін Каталіцкага Касцёла з дзяржавай і грамадствам, з іншымі веравызнаннямі, найперш з Беларускай Праваслаўнай Царквой, на карысць нашага народа, яго маральнага выхавання, кансалідацыі грамадства і развіцця міжканфесійнага і міжнацыянальнага супакою.

**Каталіцкія Біскупы Беларусі**
*catholic.by*


**Біскуп Аляксандр КАШКЕВІЧ, старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі**

### Даведка

Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў – гэта пастаянны орган, які аб'ядноўвае каталіцкіх біскупаў якой-небудзь краіны ці тэрыторыі. Мэта канферэнцыі – каардынацыя дзейнасці біскупаў краіны ці рэгіёна і сумеснае вырашэнне праблем, актуальных для Каталіцкага Касцёла на дадзенай тэрыторыі. Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі была створана ў 1999 г. Устаноўчы сход адбыўся 11 лютага 1999 г. Першым Старшынёй Канферэнцыі быў абраны святой памяці кардынал Казімір Свёнтэк.

## Склад Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі

**Старшыня** – Біскуп Аляксандр КАШКЕВІЧ, *біскуп Гродзенскі;*

**Віцэ-старшыня** – Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ, *Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі;*

**Генеральны сакратар** – Біскуп Антоні ДЗЯМ'ЯНКА, *біскуп Пінскай дыяцэзіі.*

**Іншыя ўдзельнікі:**

Біскуп Алег БУТКЕВІЧ, *біскуп Віцебскі;*
Біскуп Казімір ВЕЛІКАСЕЛЕЦ, *дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі;*
Біскуп Юрый КАСАБУЦКІ, *дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі;*
Біскуп Юзаф СТАНЕЎСКІ, *дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі.*




## У Англіі супраць закона аб трох бацьках выступілі біскупы Каталіцкага Касцёла

**Парламент Вялікабрытаніі прагаласаваў за прыняцце закона аб магчымасці нараджэння дзіцяці ад трох бацькоў.**



Паводле працэдуры, ДНК дзіцяці будзе складацца з ДНК маці, бацькі і жанчыны-донара.

Біскупы Каталіцкага Касцёла ў Вялікабрытаніі выступілі з рэзкай крытыкай прынятага ў аўторак законапраекта, які дазваляе рабіць штучнае апладненне з выкарыстаннем узораў ДНК ад трох чалавек. «Прадстаўляць гэтыя метады ў якасці лекаў або дасягнення прагрэсу абсалютна крывадушна і неэтычна», – заявіў біскуп Джон Кінан.

Афіцыйную пазіцыю ад імя Канферэнцыі біскупаў Англіі і Уэльса агучыў дапаможны біскуп Вестмінстарскай архідыяцэзіі Джон Фрэнсіс Шэрынгтан. «Касцёл спачувае людзям, якія пакутуюць на мітахандрыяльныя захворванні, і заклікае знайсці эфектыўныя метады лячэння, аднак выступае рашуча супраць такіх працэдур, якія прадугледжваюць знішчэнне чалавечых эмбрыёнаў», – заявіў біскуп Джон Шэрынгтан (John Francis Sherrington). «Чалавечае жыццё трэба паважаць і абараняць з моманту зачацця, а не выкарыстоўваць яго ў якасці аднаразовага матэрыялу», – дадаў ён.

Адзначыўшы, што Вялікабрытанія стала першай краінай у свеце, дзе дазволена выкарыстоўваць ДНК трэціх асоб пры апладненні, кіраўнік каталіцкай дыяцэзіі Пэйслі ў Шатландыі біскуп Джон Кінан (John Keenan) падкрэсліў: прапанаваныя метады несумяшчальныя з шэрагам этычных прынцыпаў, паколькі заснаваныя на забойстве – знішчэнні ўжо зачатага чалавечага жыцця.

Брытанскіх каталікоў падтрымалі праваабарончыя арганізацыі. У прыватнасці, арганізацыя Human Genetics Alert звярнула ўвагу на тую акалічнасць, што адсутнічае клінічны вопыт прымянення такіх працэдур.

Акрамя таго, як адзначаюць крытыкі, змены складу ДНК могуць паўплываць на знешнасць будучых дзяцей. "Адсутнасць ведаў па гэтым пытанні робіць людзей паддоследнымі марскімі свінкамі", – заяўляюць праваабаронцы.

*Паводле Радыё Ватыкана*

# Catholicshop.by

## Крестный Путь

**Святой Хосемария Эскрива.**
**93 стр, твёрдый переплёт.**

Это новое, посмертное издание произведения отца Эскривы призвано помочь в молитве, чтобы с помощью Божией пробудить в душе раскаяние - любовь-страдание, и с ним - благодарность Господу, Который искупил нас Своей кровью. С этой целью в книгу включены «Страницы раздумий», взятые из проповедей и бесед отца Эскривы, в которых он стремился говорить только о Боге и ни о чем кроме Бога.

«Крестный Путь» - не скорбное повествование. Отец Эскрива много раз повторял, что корни христианской радости имеют форму креста. И если Страсти Господни - путь скорби, то одновременно они и дорога надежды, и победа.




59 000

## В ожидании Евхаристии

**Минск, издательство «Про Христо», 2005.**
**140 стр, твёрдый переплёт.**

В книге предлагается путь к единению с Богом — признание в духе веры своей духовной нищеты и непрестанная молитва ожидания встречи с Христом в Евхаристии.

45 000




## Крыжовы Шлях

Выкананы з дрэва. Стацыі металічныя.

Даступныя колеры: карычневы і бежавы.

Памер: 10 x 30 см

140 000



## Тайна веры

**о. Тадеуш Дайчер**
**128 с., переплёт твёрдый.**

В книге описаны размышления о Евхаристии.

49 000




## Жыць любоўю

**122 с., пераплёт мяккі.**

У кнізе змешчаны думкі святой Тэрэзы ад Дзіцятка Езус.

25 000




## Ружанец-браслет

Пацеркі драўляныя

Даступныя колеры ружанца: бірузовы, салатавы, фіялетавы, ружовы, рабінавы, карычневы.



25 000

## Кашалёк для ружанца

Даступныя колеры: чорны і белы.




35 000

## Ружанец у шкатулцы з водарам ружы

Колер фіялетавы. Бусінкі драўляныя, злучаныя металічным ланцужком. Даўжыня ружанца - 43 см.



49 000

## Ружанец з пацеркамі-сэрцамі

Можа быць добрым падарункам дзецям і моладзі. Ружанцовая малітва вельмі папулярная ў Каталіцкім Касцёле. На ружанцы моляцца, звяртаючыся з просьбамі да Бога праз заступніцтва Маці Божай. Ружанец таксама ўжываецца падчас малітвы Вяночкам да Божай Міласэрнасці. Даўжыня ружанца - 34 см.

Даступныя колеры ружанца: сіні, белы, салатавы, карычневы, ружовы, фіялетавы, бірузовы.

29 000



## Ружанец-дзясятка з выявай св. Крыштафа

Шкляныя пацеркі ў форме брыльянта. Даступныя колеры ружанца: фіялетавы, вішнёвы, чырвоны, ізумрудны, сіні, светла-фіялетавы, жоўты, бурштынавы, чырвоны, светла-ружовы, жамчужны, аранжавы, блакітны.



29 000

## Фігурка Марыі + ружанец

Фігурка металічная. Даўжыня ружанца — 10 см.

Даступныя колеры ружанца: блакітны, чырвоны, зялёны, жоўты.

46 000



**Заказать книги и религиозную атрибутику можно, позвонив по телефону: +375 29 736 53 07 или написав письмо в редакцию.**




# Ліст з Дрысвятаў

**28 верасня ў нашу парафію, што ў Дрысвятах Браслаўскага раёна, прыехаў новы пробашч Генадзь Ляўкоў. Гэта вельмі адкрыты, добразычлівы, энергічны і мэтанакіраваны чалавек, аддадзены святар, душпастыр глыбокай веры і духоўнасці, якімі ён сапраўды валодае, а не выстаўляе напаказ.**

У нас ён працуе першы год, але бачна, што яго святарская дарога, якая распачалася не ў нашым касцёле, будзе творчай, прыгожай і па-сапраўднаму адданай Хрысту і Касцёлу.

Яго намаганнямі арганізаваны падвоз вернікаў з усіх капліц у парафіяльны касцёл у першую нядзелю месяца. Гэтае мерапрыемства праводзіцца ўрачыста, што яшчэ больш з'ядноўвае нашу парафіяльную супольнасць.

Мы вельмі ўдзячны за радасць і спакой, якія жывуць у нашай святыні. Ідзеш у гэты касцёл, і яшчэ хочацца прыходзіць часцей. Гэты сціплы чалавек прыцягвае да сябе не толькі пажылых вернікаў, але моладзь і дзяцей.

Кс. Генадзь – чалавек мудры. Ён клапоціцца пра духоўнае ачышчэнне сваіх парафіянаў. Кожнае Божае слова, прамоўленае ім з вялікім пачуццём падчас св. Імшы, паглыбляе веру людзей, асабліва ў дзяцей і моладзі.

Вялікі дзякуй за бездакорную працу ў нашай парафіі. Распачаты ўнутраны рамонт касцёла. Наша святыня становіцца больш утульнай і прыгожай.

У калядны перыяд кс. Генадзь асвячаў нашы дамы, наведваў хворых, праводзіў у апошні шлях – на ўсё ў яго хапае часу і цярпення.

Мы, парафіяне, вельмі любім яго і верым яму. Гэты яркі сонечны праменьчык у нашым жыцці.

Хай добры Бог адорыць яго вялікімі ласкамі, асвеціць зямны шлях нашага цудоўнага святара.

Гонар і хвала бацькам за добрае выхаванне сына-святара. Жадаем ім здароўя і доўгіх гадоў жыцця!

*Парафіяне Дрысвяцкага касцёла, Браслаўскі р-н*

# Ліст з Ідолты

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**
**Бог са сваёй ласкі даў парафіі ў Ідолце вельмі прыгожы касцёл-помнік Маці Божай Шкаплернай.**

Шмат вёсак уваходзяць у гэту парафію. Калі яшчэ не было капліц, людзям даводзілася шукаць транспарт, каб даехаць. Сталася так, што Бог захацеў стварыць дзве капліцы.

Гэта вельмі добра, што Божая ласка не пакінула нас. Людзі старога ўзросту могуць прайсці да капліцы 1-2 кіламетры. Цяпер капліца ў вёсцы Забалоцце збірае вельмі шмат людзей.

Тут адбываецца і хрост, і вянчанне, і пахаванне. У капліцы ўстаноўлены 14 стацый мукі Пана. Падчас Вялікага посту мы ідзём ад стацыі да стацыі з крыжам і запаленай свечкай і разважаем над мукай Пана. Ён адкупіў нас сваёй крывёю, абмыў, ачысціў, і мы, авечкі Яго статка, уважліва слухаем свайго Настаўніка. Ён вядзе нас да святла, чысціні і любові.

У капліцы вельмі прыгожы алтар, вялікія фігуры Езуса Хрыста, Маці Божай і Святога Юзафа з Дзіцяткам на руках. Ёсць падставы для свечак, каторыя можна паставіць і запаліць за здароўе ці за якія яшчэ іншыя патрэбы. Тут цёпла. Мы вельмі ўдзячныя Богу за ўсё, што тут маем.

Другая капліца ў вёсцы Дзедзіна. Там таксама прыгожа і ўрачыста. Ёсць вялікі крыж з Укрыжаваным Езусам на сцяне, дзе алтар. Ёсць фігуры і абразы. Маецца пакой, дзе адбываецца споведзь. Тут жа знаходзіцца студня са святой вадой.

Капліцу, крыж і студню асвяціў нунцый Клаўдыё Гуджэроці. Цяпер наш ксёндз Генадзь Добрук прыязджае ў гэтыя капліцы кожнае свята, кожную нядзельку. Гэта вельмі добры чалавек. Праз яго паслугу ў спавядальні мы атрымліваем прабачэнне грахоў, з яго вуснаў чуем Божае слова і ціхі голас Бога. З рук ксяндза ў часе Імшы прымаем Святую Камунію. Гэта самая шчаслівая мінута для нас!

Мы шчыра дзякуем Пану за дар прыняцця Святое са Святых – Святой Камуніі.

*Альдона Сіўко*



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення Св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю Св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю Св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на Св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 000 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую Св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе Св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на Св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |

# Што цікавага ў Кеніі, і ці атрымаюць беларускія святары заробак ад дзяржавы?



**Прапануем увазе чытачоў "Каталіцкага Весніка" гутарку з пробашчам парафіі ў Расонах, нястомным пілігрымам і экаНОмам Віцебскай дыяцэзіі кс. Вячаславам Барком.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

**– Кс. Вячаслаў, колькі працую ў Віцебскай дыяцэзіі, памятаю, што Вы заўсёды былі там, дзе пілігрымкі. Што гэта? Асаблівая харызма ці проста выкананне душпастырскага абавязку?**

– Калі харызма супадае з душпастырскімі абавязкамі, то атрымліваецца цудоўная справа. У маім выпадку якраз так і выйшла: пілігрымкі – гэта і тое, што я люблю, і тое, што патрэбна Касцёлу.

**– Пачаўшы з пешых паломніцтваў, Вашая парафія ў Расонах стала арганізоўваць і аўтобусныя пілігрымкі. Якая асноўная мэта гэтых пабожных вандровак?**

– Асноўная мэта пілігрымак – гэта паглыбленне духоўнага жыцця. Таму абавязковай умовай нашай кожнай паездкі ёсць прысутнасць святара. Падчас пілігрымкі любы можа паспавядацца, прыняць удзел у Святой Імшы, паслухаць разважанне на рэлігійную тэму ці проста сам-насам задаць святару нейкія асабістыя пытанні. Гэтым нашыя пілігрымкі і адрозніваюцца ад звычайных турыстычных паездак.

**– Як Вам удаецца, плануючы падарожжа, сумяшчаць набажэнствы, адпачынак і элементы турызму?**

– Гэта няпростая справа – задаволіць усе патрэбы вернікаў падчас падарожжа. Таму мы ў парафіі вельмі пільна плануем кожны маршрут. Колькі будзе доўжыцца пераезд з адной мясцовасці ў іншую, у якіх гатэлях мы будзем начаваць, колькі будзем маліцца ў святых месцах – усё гэта распісана па пунктах загадзя.

**– Ці праўда, што Вы непасрэдна самі праязджаеце кожны новы маршрут, каб упэўніцца ў яго зручнасці?**

– Так, гэта праўда. Мне вельмі хочацца, каб нашыя пілігрымы адчувалі сябе камфортна ў дарозе, каб ім было цікава. Як святар я таксама вялікую ўвагу надаю таму, каб нашыя вернікі маглі наведаць як мага большую колькасць каталіцкіх святыняў.

**– За Вашымі плячыма шмат пілігрымак. Якое месца Вам найбольш глыбока запала ў душу, куды яшчэ раз хацелі б вярнуцца?**

– Ведаеце, кожны маршрут унікальны па-свойму. Падчас гэтых пабожных вандровак мы маем цудоўную магчымасць спазнаць усё багацце хрысціянскай спадчыны Еўропы і не толькі. Аднак мне хацелася б, адказваючы на Вашае пытанне, указаць на Фаціму. Гэта незабыўнае месца. Шлях у Партугалію доўгі. Ён займае 16 дзён. З Беларусі трэба праехаць 10 000 км, каб патрапіць туды, дзе, як казалі старажытныя, "памірае сонца". Але гэта таго вартае.

**– Вашае адкрыццё можна ўспрымаць як прафесійную параду для патэнцыяльных пілігрымаў?**

– Канешне. Фаціма нікога не пакіне абыякавым. Маці Божая, якая там аб'явілася, чакае сваіх дзяцей. Але хацеў бы тут прыгадаць пры нагодзе думку старажытных хрысціянаў, якія лічылі, што кожны вернік павінен хаця б раз у жыцці пабываць у Святой Зямлі, у Рыме і ў Сант'ягадэ-Кампастэла, дзе пахаваны апостал Якуб. Дарэчы, ва ўсе гэтыя месцы мы ладзім пілігрымкі.

**– Пілігрымка ў якую краіну была самай экзатычнай?**

– Тут без варыянтаў. Гэта Кенія. Расонская парафія арганізавала туды паломніцтва незадарма. Справа ў тым, што згодна з навуковымі даследаваннямі чалавецтва паводле Божай задумы пачало свой гістарычны шлях якраз з сірыйска-афрыканскага разлому, дзе месціцца Кенія. Тэкст з "Кнігі Быцця" пра стварэнне свету найлепш разумееш там, калі бачыш чароўнае багацце жывёльнага свету.

**– Падзяліцеся планамі на будучыню з нашымі чытачамі?**

– У гэтым годзе, на жаль, мы не плануем новых маршрутаў. Гэта звязана перадусім з нестабільнай сітуацыяй у некаторых рэгіёнах. Але ёсць думкі, каб арганізаваць паломніцтва ў Ліван, дзе знаходзяцца рэліквіі св. Шарбеля. Аднак самі разумееце, што на сёння было б вельмі рызыкоўна ехаць туды.

**– Падкажыце, калі ласка, як прафесійны пілігрым нашым чытачам, што трэба браць з сабой у дарогу, а ад чаго варта адмовіцца?**

– Самае галоўнае (я ведаю з вопыту) – гэта не забыцца пра дакументы. Пашпарт і візы. Пакуль што, на жаль, беларусам неабходная віза ў большасць краін, куды мы ладзім паломніцтвы. А што датычыцца багажу, я заўсёды кажу вернікам: бярыце столькі ў сумку, колькі зможаце сам падняць за адзін раз. Звычайна гэтае правіла спрацоўвае.

> **"... у Статуце Віцебскай дыяцэзіі замацавана першаснае права Касцёла на вяртанне былых касцельных будынкаў"**

**– Кс. Вячаслаў, акрамя таго, што Вы з'яўляецеся пробашчам парафіі, Вы таксама выконваеце абавязкі эканома ў дыяцэзіі. У чым заключаецца Вашая праца?**

– Эканом – гэта абавязковая пасада ў Касцёле. Паводле волі біскупа я пакліканы, каб клапаціцца пра матэрыяльныя каштоўнасці Касцёла ў Віцебскай дыяцэзіі. Гэта будынкі храмаў, плябаніі, кляштары, адным словам – уся маёмасць, якой валодае Касцёл для дасягнення сваіх мэтаў: абвяшчэння і будавання Валадарства Божага на зямлі. Таксама лічу патрэбным узгадаць і пра тую маёмасць, якая была забраная ў Касцёла і пакуль яшчэ не вернутая яму. У Беларусі, на жаль, няма пакуль закона аб рэстытуцыі, але, думаю, варта пра гэта казаць. Тым больш, што ў Статуце Віцебскай дыяцэзіі замацавана першаснае права Касцёла на вяртанне былых касцельных будынкаў.

**– Вяртанне будынкаў Касцёла мае на ўвазе непасрэдны ўдзел дзяржавы. На Вашу думку, дзе яшчэ дзяржава можа дапамагчы Каталіцкаму Касцёлу?**

– Акрамя будынкаў, якія пакуль не вернуты, ёсць помнікі архітэктуры, што належаць Касцёлу. Тут, я думаю, наша дзяржава магла б дапамагчы ў рэстаўрацыі і захаванні такіх аб'ектаў. Таму што гэта супольная спадчына Касцёла і беларускага народа. Таксама лічу вартым узгадаць той факт, што ў нашых братоў-праваслаўных выкладчыкі ў семінарыях атрымліваюць дзяржаўны заробак. Чаму б па аналогіі беларускай дзяржаве не дапамагчы і каталіцкім святарам? Тым больш што гэтыя заробкі выплачваліся б з падаткаў беларускіх грамадзянаў, сярод якіх – паўтара мільёна католікаў. Апрача ўзгаданых фактаў, канешне, галіна дабрачыннасці – гэта той абшар, дзе супрацоўніцтва Касцёла і дзяржавы можа быць практычна неабмежаваным.

**– Жыццё – гэта рух, гэта пілігрымка. Што б Вы хацелі пажадаць нашым чытачам у гэтым паломніцтве?**

– Ведаеце, у наш неспакойны час многія пытаюцца: "Што будзе далей?" Адзін класік сказаў, што напрыканцы жыцця мы будзем шкадаваць, што замала любілі і замала падарожнічалі. Таму хачу сказаць усім: не бойцеся жыць і не бойцеся пілігрымаваць, адкрыйцеся на Божы свет, куды вас кліча сам Бог.

# Колькі беларускія католікі даюць на ахвяру ў касцёле?

**Вядома, што парафіяльныя супольнасці ў Беларусі функцыянуюць толькі за кошт ахвяраванняў вернікаў. “Каталіцкі Веснік” цікавіцца, колькі беларускія католікі даюць на ахвяру ў касцёле ў нядзелі і абавязковыя святы.**

*Ірына Грэйць*



**Анастасія Апрышка:**

– Мой тата, хоць і не католік-практык, заўсёды казаў, што трэба даваць столькі, каб ксяндзу хапіла на бохан хлеба (усміхаецца). Час мяняецца, кошты растуць.

Зараз я ахвярoўваю дваццаць тысяч. Калі ёсць нейкая дадатковая скарбонка на будаўніцтва касцёла або на кветкі, то таксама стараюся класці туды грошы. Мне вельмі спадабалася ідэя аднаго з касцёлаў, у якім у перыяд Вялікага посту я пабачыла скрыню з надпісам “Мая велікапосная міласціна”. Міласціна – адзін з хрысціянскіх абавязкаў. Такім чынам, мне не трэба было шукаць спецыяльна людзей, каму ахвяраваць, і я ведала, што грошы будуць выкарыстаны на добрыя справы.



**Аляксей Крыкун:**

– На гэтае пытанне адкажу толькі за сябе. Мае ахвяраванні добраахвотныя, пастаянныя, а таксама даволі малыя ў параўнанні з тым, што я атрымаў ад Касцёла. Я ахвяроўваю ад 5 да 100 тысяч.

Разумею, што гэта справа кожнага католіка, колькі і як часта даваць грошы. Аднак гэта варта рабіць, бо той, хто ахвяроўвае, атрымлівае больш. Патрэбна разумець, што Касцёлу неабходна аплачваць электрычнасць, цяпло, ваду, бензін, адзенне, ежу...

Паколькі Касцёл займаецца дабрачыннасцю – наведвае хворых, інвалідаў, сірот, дапамагае шматдзетным і тым, хто сапраўды патрабуе, – то мы такім чынам сваімі ахвяраваннямі дапамагаем таксама.



**Цігран Латышоў:**

– Касцёл – гэта дом майго Нябеснага Айца. Я разумею, што ў гэтым свеце грошы адказваюць за многія рэчы і з неба не сыпяцца. Таму я лічу, што кожны хрысціянін павінен адчуваць адказнасць і ажыццяўляць яе ў выглядзе дапамогі Касцёлу. У тым ліку і фінансавай.

Я даю дзясятую частку ад свайго прыбытку для Касцёла. Лічу, што гэта абавязковая частка. А ахвяраванне аддаю непасрэдна для спраў міласэрнасці. Мяне навучылі так з дзяцінства, што мая ахвярнасць служыць для майго дабрабыту.

“Прынясіце мне дзесяціны ў дом сховішча, каб у доме Маім была ежа, і хоць бы ў гэтым выпрабуйце Мяне, – кажа Гасподзь Саваоф. – Ці не адчыню Я вам адтулін нябесных і ці ня вылью на вас дабраславення да краю?” (Малахія 3,10).

А яшчэ калі ў мяне некалькі разоў прападалі грошы, то Бог іх вяртаў. І гэта было праз тое, што я ахвяроўваў.



**Людміла Бурлевіч:**

– Першыя хрысціяне ахвяроўвалі на Касцёл дзесяціну свайго заробку. Ужо каля дзесяці гадоў я адкладаю дзесяціну на патрэбы Касцёла. Але не кладу гэтыя грошы на нядзелях ці святах. Я сама разважаю, куды і каму іх аддаць. Гэта, напрыклад, можа быць будаўніцтва Касцёла. Тады, безумоўна, ахвярую большую суму. Гэта можа быць бедны, які сядзіць каля касцёла. Такім людзям я не даю грошай, але пытаюся, што купіць. Таксама гэта можа быць шматдзетная сям'я, каталіцкі сайт, вітраж у касцёле або штосьці іншае. Калі ахвярую вялікія для мяне сумы, лічу, што маю права ведаць, як яны выкарыстаны. Сем гадоў таму назад я дала грошы на будаўніцтва касцёла, а яго дагэтуль няма. З таго, што я ведаю, яшчэ не пачалі будаваць і не збіраюцца.

Вядома, што, калі даў ахвяру “ад сэрца”, – нельга шкадаваць. Такі прыклад навучыў мяне больш разважліва ахвяраваць. Таму скажу, колькі я кідаю менавіта ў скарбонку, не магу. Як атрымліваецца. Часам ад дзесяці да двухсот тысяч. Калі ў кашальку засталося толькі на хлеб, магу нічога не пакласці на ахвяру. Апошнім часам бываю ў Чырвоным касцёле. У нядзелю туды звычайна прыязджаюць святары і збіраюць грошы на розныя патрэбы. Думаю, што гэта добрая практыка.



**Сяргей Ракавец:**

У маёй сям'і 4 чалавекі: я, жонка і двое дзетак. Жонка праваслаўная, таму ў касцёл яна ходзіць толькі зрэдку, звычайна на святы. Я наведваю касцёл кожную нядзелю, а таксама часам хаджу на ранішнюю Імшу, можа, два разы выпадае на тыдзень. У будныя дні я ахвярую звычайна тую дробязь, што ёсць у кішэні: дзесьці 10-20 тысяч. Хоць бывае, што і 5 пакладзеш, бо больш няма. На нядзельную Імшу я хаджу з дзецьмі, таму ахвяруем ад усёй сям'і, выходзіць ад 20 да 50 тысяч. Акрамя таго, я часта бываю ў цэнтры Мінска і калі мінаю або Чырвоны касцёл або Катэдру, магу пакласці ў скрыню нейкую дробязь.

Ахвяраванне для мяне вельмі важнае, бо дазваляе неяк ачысціцца ад сваіх грахоў. Так, мы спавядаемся, але не заўсёды да канца, да чысціні. Таму мне ахвяраванне дае магчымасць выпрасіць дадатковую ласку Пана за мае штодзённыя дробныя і не зусім правіны. Таксама парафія Св. Яна Хрысціцеля ў Мінску знаходзіцца ля майго дома, і я штодзённа назіраю, як будуецца новы касцёл. Я адчуваю сябе вельмі добра, шляхетна і годна, калі мінаю гэтую будоўлю і ведаю, што адна цаглінка прынесена сюды з дапамогай маёй сям'і. Тым больш што я, на жаль, не маю магчымасці асабіста дапамагчы будаваць гэтую святыню праз сваю занятасць на працы.

Не думаю, што патрэбныя нейкія ліміты і прымусы ў зборы ахвяраванняў, гэта не метады Каталіцкага Касцёла. Нават падчас Імшы я б змяніў спосаб збору грошай, павесіўшы на пачатку кожнага рада альбо мяшочак альбо скрыначку, каб той, хто хоча, у любы момант мог зрабіць ахвяру. Гэта, на маю думку, патрэбна для таго, каб пазбавіць чалавека, які прыйшоў у касцёл, ад пачуцця сораму і няёмкасці, калі ў яго няма ці мала грошай, бо гэтае пачуццё перашкаджае ва ўспрыманні Імшы, у малітве.

## З каментароў у сацыяльных сетках:



**ВКонтакте:**

**Лариса Довгань:**

– Все зависит от финансового состояния на определенный момент. Бывает поразному. «То густо, то пусто».

**Майя Мастяница:**

– Лариса, да какая разница, что это? Никого вообще не должно волновать, сколько и как я подаю!!!

**Лариса Довгань:**

– Майя, ну вообще действительно никого не должно это волновать. Но на вопрос о зарплате в соцопросах люди охотно отвечают и называют её размер. Еще и жалуются. Ну у меня комплекса нет, сколько и как подаю. Бедность не порок, если мало, например, подаю. Если больше, то и хорошо. Я думаю, это просто статистика. Цель сего опроса можно спросить у админов группы. Лично от человека не требуют же отчет о его финансовой деятельности. И если нет желания, можно просто проигнорировать опрос.



**Фэйсбук:**

**Katerina Sidoruk:**

– Ахвяра працы

**Эдвард Лашковский:**

– Я ахвярую 1/10 частку свайго заробку і заклікаю ўсіх гэта рабіць!!!

**Паулина Доминиканка:**

– Няхай твая левая рука не ведае, што робіць правая... Сумленныя католікі ведаюць, як жыве касцёл...

**Liavon Malinoŭski:**

– Кажуць часта, што Богу трэба аддаваць сваё сэрца. Але што такое сэрца? Гэта нешта няпэўнае, нейкія эмоцыі, якія раз такія, раз іншыя. Вядома, добра, калі мы ўсёй сваёй натурай аддаёмся Богу, і эмоцыямі таксама, але нашы эмоцыі – гэта не найлепшая рэч, якую мы можам Богу прынесці. Грошы і нейкія матэрыяльныя рэчы – гэта справа аб'ектыўная. Гэта праца нашых рук, гэта наш час. Гэта і тое, што сам Бог з ласкі сваёй ад нас не забраў. Таму калі мы ахвяруем Богу грошы, то гэта таксама ахвяра de tuis donis ac datis. І я лічу, што грошы – гэта найлепшая ахвяра Богу. Асабліва калі яна даецца са свядомасцю таго, што гэта вынік тваёй штодзённай працы і твайго часу, што сам Бог табе іх даў, а таму ты проста павінен з Ім сваім дабрабытам падзяліцца.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

Вядома, што парафіяльныя супольнасці ў Беларусі функцыянуюць толькі за кошт ахвяраванняў вернікаў. А колькі Вы даяце на ахвяру ў касцёле ў нядзелі і абавязковыя святы?

- ад 10 да 20 тысяч – 169 галасоў.
- ад 5 да 10 тысяч – 153 галасы.
- ад 20 да 30 тысяч – 47 галасоў.
- ад 40 да 50 тысяч – 25 галасоў.
- ахвярую 1 тысячу рублёў – 15 галасоў.
- іншы варыянт (у каментарыях) – 18 галасоў.
- дзясятую частку ад месячнага заробку (дзесяціна) – 12 галасоў.
- зусім не ахвярую на касцёл – 10 галасоў.
- ад 30 да 40 тысяч – 8 галасоў.
- нячаста бываю ў касцёле, таму кладу на ахвяру ад 50 да 100 тысяч – 6 галасоў.

**Усяго: 463 галасы.**



# Каляндар на сакавік

**4 сакавіка – успамін святога Казіміра.**

Дзень імянін усіх, хто мае імя Казімір. Святы Казімір, каралевіч, з'яўляецца апекуном моладзі, а таксама абраны апекуном Гродзенскай дыяцэзіі і горада Гродна. Святы Казімір таксама галоўны апякун Літвы. У Вільні, у катэдральным касцёле, знаходзяцца яго рэліквіі.

**19 сакавіка – урачыстасць святога Юзафа.**

Дзень імянінаў усіх, хто мае імя Юзаф ці Юзэфа. Святы Юзаф – апякун Найсвяцейшай Панны Марыі і Езуса Хрыста на зямлі. Паходзіў з дому і роду цара Давіда. Святы Юзаф з'яўляецца апекуном добрай смерці.

Святы Айцец Пій IX у 1871 годзе абвясціў святога Юзафа галоўным апекуном усяго Каталіцкага Касцёла. У гэты дзень удзел у Св. Імшы з'яўляецца абавязковым.

**25 сакавіка – Звеставанне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята звеставання было ўстаноўлена ў канцы V стагоддзя, а ў VII ст. адзначалася ўжо ўсім хрысціянскім светам.

Урачыстасць Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі прыпамінае нам дзве вялікія праўды: таямніцу Уцелаўлення Божага слова і прывілей Мацярынства Найсвяцейшай Багародзіцы. Звеставанне – гэта вялікае свята. Паводле народных паданняў, у гэты дзень нават птушкі гнёздаў не ўюць. Таксама ў гэтую ўрачыстасць ёсць добрая традыцыя блаславілення цяжарных жанчын і іх яшчэ ненароджаных дзетак.



**29 сакавіка – Вербная або Пальмовая нядзеля.**

У гэтую нядзелю ў знак ушанавання і памяці аб трыумфе Езуса Хрыста пры ўваходзе ў горад Ерусалім асвячаюцца галінкі вярбы, ядлоўцу, часта ўпрыгожаныя кветкамі і стужкамі.

**На сакавік прыпадаюць дні нараджэння і імяніны наступных святароў і біскупаў:**

- Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч адзначае дзень нараджэння 18 сакавіка;
- ксёндз Казімір Акушка (Плюсы) адзначае імяніны 4 сакавіка;
- ксёндз Зянон Шчонхар (Відзы) адзначае дзень нараджэння 6 сакавіка;
- а. Вальдэмар Куява (Удзела) адзначае дзень нараджэння 7 сакавіка;
- ксёндз Ігнат Санюта (Ахрэмаўцы) адзначае дзень нараджэння 17 сакавіка;
- ксёндз Александр Грыцкевіч (Дзісна) адзначае гадавіну святарскіх пасвячэнняў 21 сакавіка;
- ксёндз Чэслаў Халгас MS (Дрысвяты) адзначае дзень нараджэння 24 сакавіка;
- ксёндз Вячаслаў Пялінак (Глыбокае) адзначае гадавіну святарскіх пасвячэнняў 28 сакавіка;
- ксёндз Аляксандр Амяльчэня (Ватыкан) адзначае дзень нараджэння 28 сакавіка.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць аб малітве за гэтых святароў.**

*Падрыхтавала*
*Марына Ткач*

# Святар ад Бога

У красавіку 2011 года ў нашу парафію св. Апосталаў Пятра і Паўла, што знаходзіцца ў аграгарадку Дрысвяты Браслаўскага раёна, прыехаў **пробашч Чэслаў Халгас**. А ў канцы жніўня 2014 года ён вярнуўся на сваю радзіму, у Польшчу.

Гэта быў святар, які глыбока разумеў духоўныя і матэрыяльныя патрэбы людзей. Да яго хінуліся старыя, моладзь і дзеці, неслі яму сваё гора і радасць, дзяліліся смуткам і болем. Для кожнага кс. Чэслаў знаходзіў суцяшэнне і падтрымку. Кожны з нас меў месца ў яго сэрцы.

Цяпер святара няма побач з намі, але мы памятаем пра яго і хочам падзякаваць нашаму былому пробашчу за рамонт нашай святыні, касцельнага мура, за пабудову новага гаража і за ўсё іншае. Шчыра дзякуем за малітвы, за душэўнае тлумачэнне Евангелля.

25 сакавіка нашаму шаноўнаму святару споўніцца 80 гадоў. Мы, усе парафіяне, жадаем кс. Чэславу шчасця, моцнага здароўя, апекі Маці Божай і Божага блаславення. Дзякуем за любоў да нас, за цудоўны голас.

*Гады пражыты недарэмна:*
*Іх плён аддадзен для людзей.*
*Вітаць Вас шчыра нам прыемна*
*У гэты знамянальны дзень.*

*Вернікі*
*Дрысвяцкай парафіі*
*Браслаўскага раёна*

# Усміхніцеся!

**Самая частая малітва:**
**– Божа, зрабі так, каб было не так!**

* * *

Дзіця 10-ці гадоў піша Богу:

"Прывітанне, Бог! Я вельмі рады, што напісаў Вам ліст. Як у Вас справы? Прашу ў Вас даслаць здароўе майму тату. Спадзяюся, у Вас хапіла здароўя для майго таты? Калі Вы не дашляце здароўе, то ў майго таты будзе балець сэрца. Калі ў Вас не будзе здароўя, тады дашліце шчасце. Ну, добра, хопіць пра здароўе і шчасце. Давайце проста пагаворым. У мяне ўсё добра. Спадзяюся, што ў Вас таксама ўсё добра…"

* * *

**Пасля наведвання заняткаў па рэлігіі.**
**– Дзядуля, гэта праўда, што на зло патрэбна адказваць дабром?**
**– Так, унучак, гэта праўда.**
**– Тады дай мне грошы на марозіва, а то я разбіў твае акуляры…**

* * *

Размаўляюць два вернікі:
– Я чуў, што ты нядаўна ўладкаваўся ў бібліятэку. Табе там падабаецца працаваць?
– Мяне ўжо звольнілі адтуль.
– Чаму?
– Я пераставіў усе кнігі па эвалюцыі ў раздзел "Фантастыка"…

* * *

**Падыходзіць сын да бацькі і просіць ключы ад аўтамабіля, каб пакатацца з сябрамі. Тата ставіць умову падстрыгчы доўгія валасы.**
**Сын:**
**– Але, тата, ты ж ведаеш, што ў Езуса таксама былі доўгія валасы.**
**Тата:**
**– Таму Ён хадзіў са сваімі сябрамі пешшу.**

* * *

Студэнт-фізік захапіўся рэлігіяй і перавёўся ў семінарыю. Вось сядзіць ён на лекцыі. Выкладчык падыходзіць да яго і пытае:
– Скажыце, што такое "боская сіла"?
Семінарыст адказвае:
– Боская маса на боскае паскарэнне.

* * *

**Маленькая дзяўчынка штосьці засяроджана малюе на лісточку...**
**Тата падыходзіць і пытае:**
**– Дачушка, што ты малюеш?**
**– Бога!**
**– Сапраўды? Але ніхто не ведае, як Ён выглядае.**
**– Зараз даведаюцца!**

* * *

З казання на Божае Нараджэнне:
– Юзаф, Марыя і Немаўлятка беглі ад Ірада, а вакол завіруха, гурбы…

* * *

**Святар, што прыехаў у маленькую вёсачку, спытаў у хлопчыка, як патрапіць у касцёл, дзе ён будзе гаварыць казанне ўвечары. Пасля таго, як хлопчык паказаў дарогу, святар кажа:**
**– Прыходзь сёння ўвечары і прыводзь сваіх сяброў!**
**– Навошта? – спытаў хлопчык.**
**– Таму што я буду распавядаць, як трапіць на неба, – адказаў святар.**
**– Вы жартуеце! – засмяяўся хлопчык. – Вы нават не ведалі, як трапіць у касцёл!**

* * *

Дачка да маці:
– Мама, мама, паглядзі якая гара бруднага посуду стаіць у ракавіне! Жах! Яе немагчыма перамыць! Давай скажам гэтай гары, як у Бібліі напісана, каб яна паднялася і кінулася ў мора!...

* * *

**У школу запрасілі святара правесці ўрокі расказаць дзецям пра хрысціянства.**
**Вось ён і пытае ў дзяцей:**
**– Як усе малітвы заканчваюцца? Правільна, "Амэн"! А што гэта азначае?**
**Знайшоўся адзін хлопчык:**
**– Ну... Напэўна, гэта штосьці нібы "адправіць паведамленне".**

* * *

Жанчыны-верніцы спрачаюцца з мужчынамі:
– Жанчыны таксама патрапяць у рай!
– Не, не патрапяць!
– Чаму?
– Таму што напісана: "І зрабілася на небе маўчанне на паўгадзіны".



# Ці можна займацца ёгай?

*"Ці можна займацца ёгай у звычайным фітнес-клубе (без медытацыі, толькі практыкаванні, але з індыйскай музыкай)? Часамі я сустракаю шмат асуджэння ў каталіцкім асяроддзі, хаця не раз чула і чытала, што самі практыкаванні нейтральныя і імі можна займацца на карысць здароўю. Ці ёсць у Касцёле які-небудзь афіцыйны пункт гледжання?"*
*Наста*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Апошнім часам мы назіраем значнае распаўсюджванне формы актыўнасці, пераважна фізічнай, якая называецца адным словам "ёга". Для некаторых ёга – гэта проста метад рэлаксацыі і паслаблення напружанасці, для іншых – форма фізічных практыкаванняў, якія паляпшаюць агульны стан асобы. Хтосьці з яе дапамогай хоча вылечыцца ад хваробы, а ў рэкламе яна прапаноўваецца як модны спосаб карысна правесці вольны час. Усё радзей успрымаецца ёга як філасофская і духоўная дарога.

## Двухсэнсоўнасць разумення ёгі

На першы погляд, здаецца, што ў формах ёгі, якая складаецца са спецыяльных фізічных практыкаванняў, няма аніякай небяспекі, што гэта толькі чыстая гімнастыка, фізкультура і нічога больш. Індыйская музыка становіцца нейтральным фонам такім практыкаванням. Аднак вернік-католік, які сустракаецца з ёгай, павінен задавацца пытаннем пра яе сутнасць і ўплыў на ўласную духоўнасць. На жаль, складана знайсці на гэтую тэму адпаведную інфармацыю. Паколькі для нашай краіны ёга з'яўляецца чымсьці адносна новым, то і ў каталіцкіх выданнях, і ў іншых СМІ няшмат пра яе напісана.

У сучаснай інфармацыйнай прасторы вернік можа сустрэцца з блытанінай і двухсэнсоўнасцю разумення ёгі. Калі б ёга абмяжоўвалася толькі фізічнымі практыкаваннямі, то магчыма было б лічыць яе бяспечнай для католікаў. Канешне, вельмі важна тое, якая "школа" яе прапануе, якія настаўнікі, ды і з якім намерам ёй займаецца вернік? Ёга спалучана з пэўным бачаннем свету, чалавека і Бога, між іншым з тэорыяй рэінкарнацыі, якая несумяшчальная з хрысціянскай верай. Варта заўважыць, што ёга мае карані ў традыцыі індуізму, без чаго нельга яе зразумець. Практыкаванні ёгі, хаця б толькі ў форме фізічнай гімнастыкі, патрабуюць ад чалавека прыняць прынамсі частку прынцыпаў звязанага з ёю светапогляду.

Нельга сцвярджаць, што любая форма ёгі вядзе да аддалення ад Бога, паколькі ўсё залежыць ад самога чалавека, ад таго, наколькі ён зменіць свой спосаб мыслення, стыль жыцця, пачынаючы, напрыклад, ад дыеты і гэтак далей. Тым не менш, як мяркуюць спецыялісты, гэта можа быць пачаткам аддалення ад Бога і адыходу з Касцёла.

Слова «ёга» нясе з сабой мноства значэнняў. У самым шырокім сэнсе ёга – гэта дысцыпліна, заснаваная ў Індыі, якая ўключае ў сябе метады самаўдасканалення і медытацыі, што прыводзіць да розных станаў духоўнай дасканаласці, вопыту трансцэндэнтнасці і вызвалення ад сансары (калаўрот нараджэння і смерці).

## Што кажа Касцёл?

У навучанні Касцёла няма дакументаў, якія б непасрэдна датычыліся ёгі як формы практыкаванняў цела. Каталіцкі Касцёл звяртае ўвагу на небяспеку так званых усходніх метадаў медытацыі: "У апошнія дзесяцігоддзі многія вернікі задаюць пытанне пра вартасць нехрысціянскіх формаў медытацыі для хрысціянаў. Гэта датычыцца ў асноўным усходніх метадаў у цэлым" (Кангрэгацыя дактрыны веры, Ліст да біскупаў Каталіцкага Касцёла пра некаторыя аспекты хрысціянскай медытацыі Orationis Formas, 15.10.1989). Пад тэрмінам "усходнія" згаданы дакумент разумее метады, натхнёныя індуізмам і будызмам, такія, як «дзэн», «трансцэндэнтальная медытацыя» ці «Ёга» (Пар. тамсама, зноска 1). Кангрэгацыя не асуджае ёгу як "фізкультуру", аднак звяртае ўвагу, што хаця "некаторыя фізічныя практыкаванні аўтаматычна выклікаюць пачуццё спакою і рэлаксацыі, пачуцці асалоды і нават святла і цяпла, якія нагадваюць духоўныя радасці, успрымаць іх як сапраўдныя суцяшэнні Святога Духа было б цалкам памылковым разуменнем духоўнай дарогі" (Пар. тамсама, 28).

Святы Ян Павел II у 14 пункце кнігі "Пераступіць парог надзеі", кажучы пра медытацыю ў будызме, сцвярджае, што "хрысціянская містыка ўсіх вякоў не вырастае з чыста негатыўнага "асвячэння", якое адкрывае чалавеку вочы на зло, якім ёсць прывязанасць да свету праз пачуцці, праз інтэлект і праз дух. Гэта містыка нараджаецца з Аб'яўлення Бога Жывога. Гэта Бог адкрываецца на паяднанне з чалавекам і адкрывае таксама ў чалавеку здольнасць да паяднання з Ім, перадусім праз тэалагічныя дабрадзейнасці: праз веру і надзею, а больш за ўсё – праз любоў". Тэксты Яна ад Крыжа на азіяцкім Усходзе часта ўспрымаюцца як пацвярджэнне тамтэйшых аскетычных метадаў. Аднак жа доктар Касцёла не прапануе толькі адарвацца ад свету. Ён прапануе адарвацца ад свету для паяднання з тым, што ёсць пазасветавае, а пазасветавае – не «нірвана», але Асоба, Бог. Паяднанне з Ім адбываецца не толькі на шляху ачышчэння, але праз любоў".

## Сведчанні святароў, якія практыкавалі ёгу

Бельгійскі тэолаг, айцец Жазэф Мары Вэрланд, на працягу некалькіх гадоў пазнаваў трансцэндэнтальную медытацыю і практыкаваў ёгу. Пасля свайго навяртання і сямі гадоў малітваў аб вызваленні і духоўным аздараўленні ён паступіў у духоўную семінарыю і стаў каталіцкім святаром. Святар лічыць, што калі хтосьці час ад часу займаецца практыкаваннямі, якія нагадваюць ёгу, то гэта не азначае, што чалавек прымае звязаную з ёю духоўную традыцыю. Айцец Жазэф Мары мяркуе, што ў тэрапеўтычным кантэксце магчыма выкарыстоўваць некаторыя з пунктаў ёгі, аднак нагадвае пра неабходнасць быць пільным і не ісці занадта далёка ў гэтыя практыкаванні, каб яны не ўвайшлі ў звычку, і прыпамінае аднаго са сваіх настаўнікаў (гуру), які казаў: «Нават калі вы займаецеся ёгай толькі для здароўя, гэта не перашкаджае ёй выконваць сваю справу». Тут маецца на ўвазе, што практыкаванні могуць прывесці да адкрыцця кундаліні (таемная энергія), разблакавання чакраў (сляпленні энергетычных каналаў) і да зменаў у станах свядомасці, якія на самай справе ёсць элементамі трансу, калі чалавек адкрываецца на дзеянне духаў.

Варта прывесці выказванні вядомага ў Беларусі індыйскага святара айца Джэймса Манджакала, які піша, што ёга – гэта не сістэма фізічных практыкаванняў, але духоўная дысцыпліна, што прыводзіць душу да самадхі (надзвычайнае з'яднанне з боствам). Цікава адзначыць, што паставы (сансары) і дыхальныя практыкаванні, якія часта падаюцца як уся ёга, на самай справе ёсць крокамі да яднання з Брахманам (безасабовы абсалют). Айцец Джэймс у адным з казанняў задае пытанне, чаму пэўныя фізічныя практыкаванні называюць ёгай? Калі гэта толькі гімнастыка, то чаму мае такую назву? Святар сцвярджае, што, напрыклад, хатха-ёга, распаўсюджаная ў Еўропе, – гэта чацвёртая ступень да з'яднання з богам, таму ніводная ступень ёгі непрымальная для таго, хто верыць у Езуса Хрыста.

Іншы індыйскі святар айцец Джозаф Пэрэйра, які сам шмат гадоў практыкуе ёгу паводле школы Айенгара, лічыць, што практыкаванні ёгі, якія адносяцца да цела і дыхання, маюць тэрапеўтычнае дзеянне і служаць здароўю. Ён сам выкарыстоўвае ёгу як інструмент для практыкавання хрысціянскай медытацыі. Айцец Джозаф, звяртаючы ўвагу на тры ступені ёгі – цела, дыханне і медытацыю, – перасцерагае перад апошняй, якая небяспечная для католіка.

> **"Ёга можа быць небяспечнай для католіка"**

Немагчыма даць адназначны адказ на пастаўленае пытанне. Безумоўна, ёга можа шкодзіць чалавеку. Паводле меркавання экзарцыстаў, можа нават адкрыць на дзеянне шатана. Выбар належыць свабоднай чалавечай асобе. Св. Павел, навучаючы пра маральнасць, кажа: "Усё мне можна, але не ўсё карысна. Усё мне можна, але нічым не дам сябе зняволіць" (1 Кар 6, 12). Калі ж ужо хтосьці вырашыць карыстацца гэтай формай фізічных практыкаванняў, павінен пазнаць іх сутнасць у адпаведным фітнес-клубе, даведацца, кім з'яўляецца настаўнік, якіх маральных прынцыпаў і якога светапогляду прытрымліваецца, ці не лічыць ёгу падрыхтоўкай да найвышэйшых ступеняў асабовага развіцця і ўтаямнічання. Католік-практык, шукаючы для сябе адказ на пытанне пра ёгу, ці задумваючыся над яе распачаццем, ці ўдзельнічаючы ў занятках у фітнес-клубе, мае таксама дапамогу ў малітве і сакрамантальным жыцці, асабліва ў споведзі і духоўным кіраўніцтве.



# У чым сэнс дашлюбнай чыстасці?

*“Хвала Хрысту! У чым сэнс і значэнне дашлюбнай чыстасці, а таксама боль і сорам наступстваў нецнатлівага ладу жыцця я ўжо зразумела (прыкладна год назад я вярнулася да Бога). Я веру, што Ён, пабачыўшы маё пакаянне, прабачыў і хоча, каб я пазбавілася ад граху і ішла далей. Як мне будаваць адносіны з цяперашнім маладым чалавекам, які з'яўляецца вернікам (мы дамовіліся, што не будзем жыць разам, пакуль мы не муж і жонка). Яму не ўсё роўна, што ў мяне было да яго. Маё мінулае прычыняе яму боль, што часам праяўляецца ў нечаканых прыніжальных пытаннях, папроках у мой бок (сітуацыю азмрочвае таксама тое, што праз сваю прафесію ён “перасякаецца” з маімі былымі мужчынамі). І яшчэ адно пытанне. Як мне сёння самой ставіцца да іх? Ці патрэбна штосьці тлумачыць? Прасіць або патрабаваць прабачэння?”*

*Любоў*



**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Кожны чалавек як свабодная істота сам нясе адказнасць за свае ўчынкі. У жыцці мы пастаянна, штодзённа робім мноства выбараў, вялікіх і малых. Гэтыя выбары вызначаюць ход нашага жыцця і наш лёс. Безумоўна, сярод нашых выбараў будуць таксама і няправільныя, будуць сярод іх і грахі.

Божае збаўленне і міласэрнасць заключаюцца ў тым, што чалавек цяпер дзякуючы Езусу Хрысту атрымаў магчымасць аздараўляць сваё жыццё ад наступстваў нашых няправільных выбараў праз пакаянне, шчыры жаль і цвёрдую пастанову выправіцца. Гэта не засцерагае нас ад новых памылак, але дазваляе прыняць сваё мінулае з яго наступствамі і ўсвядоміць прабачэнне.

Атрымаўшы прабачэнне і прымірэнне з Богам, чалавек таксама павінен прабачыць сабе, і таксама мае права спадзявацца на разуменне і прыняцце з боку сваіх блізкіх. Хрысціянін не мае права дакараць кагосьці і папракаць за мінулыя памылкі, бо ніхто не ёсць беззаганным.

Таму, адказваючы на Ваша першае пытанне, неабходна прабачыць сабе так, як нам прабачае Бог, што таксама вымагаецца ад Вашага хлопца. Уменне прабачаць і не вяртацца да мінулага ёсць важнай перадумовай будавання сумеснага жыцця. Калі чалавек не навучыцца прабачаць, ён не будзе здольным ствараць здаровыя адносіны.

Наконт другога пытання, стыль паводзінаў залежыць ад канкрэтных асобаў і абставінаў. Вы павінны адчуць самі, перад кім трэба выбачыцца, каму патлумачыць. А чакаючы выбачэння з боку іншых людзей, нельга забываць, што за нашыя ўчынкі і выбары адказныя не яны, а мы самі.

## Ці абавязкова пры нараджэнні дзіцяці выбіраць імя паводле святых?

*“Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, ці абавязкова пры нараджэнні дзіцяці выбіраць імя паводле святых?”*

*Святлана*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Імя, якое даецца пры нараджэнні, звычайна з'яўляецца хросным імем чалавека. Таму, Святлана, адказваючы на Вашае пытанне, мы будзем месць на ўвазе хроснае імя. У каноне 855 “Кодэкса Кананічнага Права Рымска-Каталіцкага Касцёла” можна прачытаць, што дзіцяці не трэба даваць імя, якое супярэчыць хрысціянскаму духу. Гэта норма змешчана ў раздзеле пра хрост. “Антыхрысціянскім” імем, напрыклад, магло б быць тое, што звязана з сатанізмам. Раней імя для дзіцяці часта выбіралася адпаведна з тым, якога святога ўспамінаюць у дзень нараджэння чалавека. Таму імяніны і дзень нараджэння супадалі, а некаторыя да гэтага часу лічаць гэтыя словы сінонімамі.

Цяпер можна заўважыць адыход ад гэтай практыкі. Увогуле, бацькі не абавязаны даваць свайму дзіцяці імя святога або святой, такім чынам, “нейтральныя” імёны не забаронены. Некаторыя аргументуюць выбар імя дзіцяці, аналагічнага з імем святога, тым, што святы будзе асаблівым апекуном для яго і прыкладам. Таму душпастыры заахвочваюць да выбару такога імя.

Некаторыя, даючы свайму дзіцяці “нейтральнае” імя, аргументуюць гэта магчымасцю выбраць другое імя пры ўдзяленні сакраманту канфірмацыі (бежмавання). Асобныя мясцовыя касцёлы, дзе існаваў такі звычай, паступова адыходзяць ад практыкі даваць другое імя пры канфірмацыі, каб яшчэ больш падкрэсліць сувязь канфірмацыі з хростам.



# ЯК ПРАВІЛЬНА СКАЗАЦЬ: *НА БЕЛАРУСІ* ЦІ *У БЕЛАРУСІ*? *НА УКРАІНЕ* ЦІ *ВА УКРАІНЕ*?

**Сёння і ў вусным маўленні, і ў пісьмовай практыцы, напрыклад, на старонках газет, сустракаюцца розныя ўжыванні згаданых канструкцый – з прыназоўнікамі *на* і *ў (ва)*. Але ці можна іх разглядаць як раўнапраўныя? Пры больш дэталёвым аналізе выяўляецца, што сітуацыя тут не такая і простая.**

**Юрась Бабіч,** *кандыдат філалагічных навук*

Прыназоўнік *на* сярод іншых рэалізуе і значэнне “на паверхні, на плошчы, на тэрыторыі без акрэсленых межаў”. Традыцыйна ён выкарыстоўваецца з назвамі выспаў ці астраўных дзяржаў. Таму мы кажам: *на Кіпры, на Багамах, на Кубе, на Балі* і г.д. Таксама прыназоўнік *на* будзе дарэчным пры ўказанні на пэўныя тэрыторыі ў межах адпаведнай дзяржавы: *на Віцебшчыне, на Глыбоччыне, на Палессі, на Жытоміршчыне* і г.д. Яшчэ адзін важны момант – выкарыстанне прыназоўніка *на* пры назве мясцовасцяў, размешчаных вакол гор ці рэк: *на Каўказе, на Урале, на Дняпры, на Дунаі, горад на Дзвіне* і інш.

З назвамі кантынентальных краін (не астраўных) традыцыйна ўжываецца прыназоўнік *у*. Таму мы і кажам, напрыклад, *у Польшчы, у Літве, у Злучаных Штатах Амерыкі, у Нямеччыне*. Значыць, павінна быць *у Беларусі* і *ва Украіне*. У апошнім выпадку выкарыстоўваецца варыянт прыназоўніка *у – ва*, бо паводле фанематычных асаблівасцяў цяжка вымавіць *у Украіне*. З гэтага вынікае, што канструкцыі ***ў Беларусі*** і ***ва Украіне*** з'яўляюцца правільнымі і лагічнымі.

Дарэчы, і класікі беларускай і ўкраінскай літаратуры аддавалі перавагу якраз такім ужываванням. Прывядзём колькі прыкладаў. Васіль Быкаў: *Толькі **ў Беларусі** за час яжоўска-берыеўскіх рэпрэсій 30-ых гадоў знішчана каля двух мільёнаў чалавек*; Пімен Панчанка: *Мала **ў Беларусі** разумных гісторыкаў, якія любяць і ведаюць родную гісторыю*; Тарас Шаўчэнка: *Мені однаково, чи буду я жить **в Україні**, чи ні*. Тут варта прыгадаць меркаванне праф. Лепешава, што “спалучэнне *на Украіне*, хутчэй за ўсё, узнікла ў Расіі. Пасля таго, як Украіна стала часткай Расійскай імперыі, слова *Украіна* пачалі (з шавіністычных пазіцый) атаясамліваць з *окраиной* (ускраінай). Па аналогіі з *на окраине* стала ўжывацца на Украіне” (Лепешаў І.Я. Сучасная беларуская літаратурная мова: спрэчныя пытанні. – Гродна, 2002. – с. 190). У рускай мове і сёння найчасцей захоўваецца выкарыстанне канструкцыі *на Украине*, што мае не столькі ўласнамоўны, колькі ідэалагічны, праімперскі падтэкст, адлюстроўвае імкненне прынізіць статус самастойнай дзяржавы.

Звяртае на сябе ўвагу, што мэтазгоднасць ужывання спалучэння *ў Беларусі* падкрэслівалася яшчэ ў выдадзенай у 1977 годзе ў Мінску манаграфіі нашага вядомага лінгвіста М.С.Яўневіча “Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове”. Аўтарытэтны навуковец піша, што “прыназоўнікава-склонавая форма *на Беларусі* паводле значэння блізкая да спалучэння *на тэрыторыі Беларусі*, а *ў Беларусі* – да спалучэння *ў Беларускай рэспубліцы*” (с. 234). Як бачна, гэта было канстатавана задоўга да абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

Такім чынам, падсумоўваючы сказанае, адназначым, што ў нашай мове з назвамі дзяржаў *Беларусь* і *Украіна* павінен ужывацца прыназоўнік *у (ва)*. Гэта значыць, напрыклад, *мы былі (жывём)* ***у Беларусі*** і ***ва Украіне***, а не *на Беларусі* і *на Украіне*.

# Як сябе паводзіць з цыганамі?

*"Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, на пытанне. Як сябе паводзіць з цыганамі, калі яны падыходзяць на вуліцы ці ў транспарце і просяць грошай? Як не застацца абыякавай да бліжніх і адначасова самой не стаць ахвярай зла? І ці праўда, што ад цыган можа зыходзіць большая небяспека, чым ад іншых людзей. Ці трэба іх асцерагацца? Дзякуй!"*

*Ганна Касцюкевіч*



**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Спадарыня Ганна, дзякуй за вельмі важнае пытанне. Як быць з тымі, хто просіць грошай, няхай гэта будуць цыгане ці іншыя, хто патрабуе? Па меры магчымасці і дастатку варта прыходзіць з дапамогай. Нездарма пяты касцельны наказ гучыць так: «дапамагаць у патрэбах супольнасці Касцёла», а на зямлі няма такога чалавека, які, будучы нават па-за супольнасцю Касцёла, не быў бы пакліканы да ўдзелу. Таму фактычна мы пакліканы як каталікі прыходзіць на дапамогу ўсім людзям. Прыкладам для нас можа быць Папа Францішак. Калі прасачыць яго дзеянні, то яскрава заўважым любоў да бедных і тых, хто церпіць нястачу з розных прычын. Гэтая любоў між іншым праяўляецца ў канкрэтнай матэрыяльнай дапамозе. Вартай увагі будзе наступная рэкамендацыя Папы: "Падзяліцца з іншым – гэта не значыць аддаць непатрэбнае адзенне, абутак, дробныя грошы, якія ляжаць у кішэнях, не пра гэта ідзе гаворка. Міласціна, якую перадаём, павінна "балець" нам. Ведаем, што для нас гэта патрэбна, але менавіта ў гэты час іншы чалавек мае большую патрэбу ў нашай дапамозе. І яна (міласціна) крыху баліць, бо аддаю сваё. І тады гэта сапраўды міласціна, тады гэта выхад на сустрэчу іншаму чалавеку. Не таму дзелімся з іншымі, што маем замнога, але таму, што бліжні апынуўся ў большай патрэбе». Вось яно сапраўднае аблічча хрысціянскай міласціны.

Зыходзячы са словаў Папы, міласціна – гэта штосьці свядомае. Таму кінуць рэшту грошай чалавеку, які патрабуе, – гэта толькі на хвілінку суцішыць сваё сумленне і пайсці далей, уцякаючы ад вельмі глыбокага пытання сваёй прыналежнасці да Хрыстовага Цела, Якое ў дадзены момант у канкрэтным чалавеку церпіць нястачу. Таму ў супольнасці Касцёла ёсць усе магчымыя сродкі, каб міласціна была пабожнай, шчырай і каб служыла збаўленню. Напрыклад, Caritas, місія «Чыстыя сэрцы», зборы ахвяраванняў падчас Імшаў і шматлікія ініцыятывы мясцовых душпастыраў. Кажучы вельмі проста – лепей даць сродкі на вось такія касцельныя акцыі, чым, кіруючыся першымі эмоцыямі і перажываннямі, даваць іх тым, хто мае часам сумніўную і падазроную патрэбу. Чаму так? Бо арганізаваная дапамога заўсёды трапіць згодна з інтэнцыяй ахвярадаўцы.

Што да другой часткі пытання, то ў кожным народзе бываюць злодзеі, таксама і ў цыган. Але большасць людзей стараецца жыць па законах дзяржавы, каб такім чынам быў лад і парадак у грамадстве.

# Віншуем!

**Хвала Хрысту!**

*Сардэчна віншуем **нашага паважанага біскупа Віцебскага Алега Буткевіча** з нагоды яго імянінаў 26 лютага. Жадаем нашаму пастыру плёну ў працы на карысць дыяцэзіі, моцнага здароўя і аптымізму! Няхай добры Божа дапамагае яму ў добрых і карысных пачынаннях, а Маці Божая атуляе яго сваёй Мацярынскай апекай.*

*З павагай і ўдзячнасцю – вернікі, святары і законныя сёстры Пастаўскай парафіі*

**Віншуем!**

*Віншуем **ксяндза-пробашча Крыштафа Мянкіну** з Днём нараджэння і жадаем яму добрага здароўя, вытрымкі ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях, Божага блаславення, апекі Маці Божай на далейшыя гады жыцця і працы на ніве Пана. Таксама хочам шчыра падзякаваць бацькам кс. Крыштафа за тое, што выхавалі такога сына – таленавітага, спагадлівага, шчодрага на дабрыню. Адным словам, сапраўднага святара!*

*Аляксандр Сінкевіч – ад імя ўсіх вернікаў Мёрскай парафіі*

**Шаноўны ксёндз Вадзім Прасяной SCJ!**

*З нагоды Дня нараджэння 16 лютага жадаем Вам апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых ласкаў Пана Бога, дароў Духа Святога, здароўя і зычлівых людзей на святарскім шляху!*

*Мы, парафіяне касцёла св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НПМ у Паставах, удзячныя Пану Богу, што ў нас служыць святар, які вучыць нас быць сапраўднымі хрысціянамі, шчыры ў працы і малітве, які заўсёды знаходзіць добрае слова для кожнага!*

*З павагай і ўдзячнасцю – вернікі, святары і законныя сёстры Пастаўскай парафіі*

# Як будзе выглядаць пахаванне "па-людску"?

***"Хвала Хрысту! Мне ўжо багата гадкоў. Ганаруся, што на схіле жыцця жыву ў райскім куточку, у Глыбокім – апірышчы беларускасці і талерантнасці. Учора быў сведкам пахавання на вясковых могілках, дзе труну паважанага глыбачаніна-праваслаўнага паклалі галавой да ног яго жонкі-каталічкі. А яны ж пражылі разам у згодзе амаль 50 гадоў! Перад тым як апусціць труну ў магілу, адбылася гарачая спрэчка пра традыцыі пахавання праваслаўных з усталяваннем крыжа ў нагах памерлага і недарэчнасці хаваць "валетам" мужа і жонку. Бацюшка настаяў на захаванні праваслаўнай традыцыі. А як будзе выглядаць пахаванне "па-людску" з улікам традыцый праваслаўнай і каталіцкай канфесій?"***

*Генадзь Плавінскі*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**



– Паважаны спадар Генадзь! Вялікі дзякуй за Вашае пытанне і за сведчанне любові да Беларусі і да сваёй малой радзімы. Пытанне, якое ў Вас узнікла, закранае дзве тэмы: пабожныя традыцыі і суіснаванне розных хрысціянскіх канфесій. Традыцыя ставіць крыж на могіках "у галаве" або "у нагах" памерлага па сутнасці больш залежыць ад тэрыторыі, чым ад канфесійнай прыналежнасці. Гэту сітуацыю не рэгулююць прадпісанні Каталіцкай або Праваслаўнай царкваў. Варта тут прыгадаць выпадак, які адбыўся ў 2012 годзе ў Ганцавіцкім раёне. Выявілася, што розныя вернікі праваслаўнай канфесіі маюць розныя погляды адносна месцазнаходжання крыжа на магіле. Для таго, каб спыніць спрэчкі, быў накіраваны ліст ва Упраўленне Мінскай епархіі. Адказ пад нумарам 1172 змяшчаў такі тэкст: «*Та или иная практика установления креста при погребении зависит от местных традиций и нисколько не еретична. А традиция в разных местах может иметь различный вид. Чадам Православной церкви стоит придерживаться традиции, принятой в том регионе, в котором они проживают. А вообще существует несколько толкований символики установки креста. Так, крест, установленный в ногах, подразумевает, что в будущем воскресении человек, поднимаясь из могилы, смотрит на него и обращается к Своему Создателю. А крест, установленный в изголовье, знаменует хоругвь, которую понесет человек после воскресения как символ победы над сатаной*».

Тое самае можна аднесці да сітуацыі каталіцкіх вернікаў. Самае істотнае пры развітанні з памерлымі – гэта наша малітва за іх з надзеяй на сустрэчу ў небе.

На жаль, Касцёл Хрыста падзелены. Наступствамі гэтага падзелу з'яўляецца тое, што суіснаванне розных хрысціянскіх канфесій часам азмрочваецца драматычнымі момантамі, калі нельга знайсці рашэнне, якое задаволіла б усіх. Аднак апісаная Вамі сітуацыя да такіх момантаў не належыць, паколькі, як ужо было сказана, месцазнаходжанне крыжа на магіле не з'яўляецца "прынцыповым" пытаннем.

Трэба больш часу прысвячаць малітве, як гэта было сёлета падчас Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян, каб прыйшоў час "адной аўчарні і аднаго Пастыра".

# Стоит ли наказывать детей?

**Поводом для написания этой статьи послужило недавнее высказывание Папы Римского Франциска на одной из аудиенций в Ватикане о том, что шлёпать детей можно, но при условии того, что не будет унижено достоинство ребёнка. Стоит отметить, что сказанное вызвало большое количество критики.**

■ **Марина Ткач**, *социальный педагог*, *психолог*

Давайте разберёмся, так ли уж был неправ Папа Франциск, высказывая свою мысль.

Замечу, что вопрос о наказаниях не обошла вниманием ни одна серьёзная педагогическая школа. Учёные мужи уже много веков вдохновенно спорят о том, можно ли шлёпнуть расшалившегося ребёнка по попе или ему достаточно объяснить, как плохо он себя ведёт.

Между тем «обычные» мамы и папы, не имеющие отношения к науке, сталкиваются с этим поистине гамлетовским вопросом каждый день.

Давайте вместе с вами попробуем разобраться с тем, стоит ли наказывать детей и как лучше это сделать, не нанеся вред ребёнку.

## Наказывать детей можно или нужно?

Чтобы ответить на этот вопрос, необходимо выяснить, что такое наказание.

Термин **«наказание»** в психологии означает действие, которое совершается с целью уменьшения, по крайней мере временно, вероятности того, что какое-либо поведение наказанного повторится.

Цель наказания – побудить человека не вести себя данным образом. Это наиболее общий метод контроля поведения.

Наказание – это вполне нормальное явление, которое учит детей нести ответственность за свои поступки. Ещё с раннего детства мы устанавливаем в жизни детей определенные правила. Хоть мы сами того и не понимаем, но жить по правилам легче. Если в жизни ребёнка существует простое понимание того, за что его хвалят и за что ругают, ему проще адаптироваться в семье и в обществе.

На самом деле наказание – это разновидность обратной связи, которая выступает в форме неприятных последствий. Наказание несёт информацию, которая помогает людям понять, что они совершили что-то недопустимое или неправильное. Для детей в период их роста и развития эта информация еще важнее. Дети нуждаются в обратной связи – как положительной, так и отрицательной, – чтобы понять, какое поведение является приемлемым, а какое нет.

Для огромного числа родителей девизом в воспитании стали слова: *«У моего ребёнка должно быть счастливое детство!»* Родители надеются, что их чадо начнет хорошо себя вести, когда станет старше и «всё поймёт».

Настольной книгой по воспитанию таким мамам и папам служат труды Б. Спока. Американский педиатр на долгие годы стал символом гуманного отношения к детям, требующего уважения и признания их естественных потребностей, отрицающего всякое насилие над психикой ребёнка и запрещающего наказания.

В этом случае за безопасность детей отвечают исключительно взрослые. Они стремятся как можно меньше их огорчать и избегать конфликтов. В результате родители начинают идти на поводу у собственного ребёнка.

Однако, как пишет в своей книге «Непослушный ребёнок» психолог Д. Добсон, в последние годы известный педиатр Б. Спок пересмотрел свои взгляды на воспитание в пользу необходимости дисциплины, так как иначе у детей не формируется представление о границах дозволенного, складывается эгоистическое, неуважительное отношение к другим людям, они не умеют себя организовать.

Правила, ограничения и запреты обязательно должны быть в жизни каждого ребёнка.

## Как наказывать ребёнка правильно

Если вы научитесь различать ситуации, в которых ребёнка можно и нужно наказывать, а в которых он никоим образом не виноват, то уже сделаете полдела. Научиться видеть вину несложно. Самая большая трудность в том, чтобы не вспылить раньше времени, не дать своему эгоизму проявить себя прежде, чем включится родительская любовь.

> **«Правила, ограничения и запреты обязательно должны быть в жизни каждого ребёнка.»**

В основе любого действия с вашей стороны должна лежать безусловная родительская любовь – любовь к малышу независимо ни от чего! Без этого самого важного из всех компонента вы не сможете добиться успеха ни в одной из сфер детского воспитания.

Д. Добсон сформулировал шесть основных принципов, опираясь на которые родители должны решать вопрос о наказании ребёнка:

1 Сначала установите границы, затем требуйте их соблюдения. Вы должны сами для себя определить, чего хотите и чего не хотите. Ребёнок, в свою очередь, тоже должен знать, что приемлемо в его поведении, а что – нет. Только при таком условии наказание будет восприниматься им как акт справедливости.

2 На вызывающее поведение отвечайте уверенно и решительно. Если ребёнок демонстрирует явное неповиновение, если он идёт на открытый конфликт, вы должны быть готовы к этому. Ваша беспомощность лишает вас авторитета в глазах детей.

3 Отличайте своеволие от детской безответственности. Это означает, что ребёнка нельзя наказывать за непреднамеренный проступок. Если он забыл выполнить вашу просьбу или просто не понял вашего требования, не наказывайте его. Нельзя предъявлять к детской памяти и интеллекту такие же требования, как к памяти и интеллекту взрослого. Детская безответственность не то же самое, что злостное непослушание, она требует более терпеливого отношения.

4 Когда конфликт исчерпан, утешьте ребёнка и все ему объясните. Ребёнок почти всегда тяжело переносит наказание. Он чувствует одновременно вину, растерянность, считает, что его бросили. После того как срок наказания истёк, помиритесь с малышом. Обнимите его, погладьте, скажите, как сильно вы его любите и как вам неприятно наказывать его. Ещё раз объясните ребёнку, почему он наказан и как в следующий раз следует поступать.

5 Не требуйте невозможного. Родители должны быть уверены в том, что ребёнок в действительности может исполнить то, что от него требуется. Нельзя наказывать за то, что он намочил постель или сломал игрушку, которую вы ему подарили. Наказание в данном случае может стать источником внутреннего конфликта ребёнка.

6 Руководствуйтесь любовью. Прежде чем наказывать, разберитесь в ситуации, при этом постарайтесь оставаться спокойным. Мерилом здоровых отношений с детьми являются любовь, теплота, искренняя забота. Только они могут оправдать необходимость строгости и дисциплины.

Главный принцип заключается в том, чтобы наказывать проступок, а не самого ребёнка! Только при соблюдении этого принципа не пострадает ни самооценка, ни уверенность в себе, а наказание принесет реальную пользу.

Как бы там ни было, что бы ни сделал ваш ребёнок, вы в первую очередь должны его попытаться понять и объективно оценить ситуацию. И только после этого – действовать.



**И здесь следует поговорить о том, как, какими способами осуществлять наказание.**

У детей чувство справедливости развито ещё острее, поэтому родителям очень важно выбрать такой вид наказания, который был бы понятен ребёнку и с которым он был бы внутренне согласен.

## Чтобы было легче справиться с ребёнком, используйте следующие методы

1 **Стул для тайм-аута.** Это наиболее эффективное наказание для ребёнка от 2 до 5 лет. Назначьте один из стульев в вашем доме стулом для тайм-аута или стулом «посиди-успокойся». Купите песочные часы на 3 минуты. Каждый раз, когда ребёнок не слушается, отправляйте его на этот стул, переворачивайте песочные часы и объясняйте ребёнку, что он должен сидеть на стуле, пока не кончится песок. Потом он может встать. Этот метод требует научения, то есть сначала ребёнок будет сопротивляться, постоянно сбегать со стула и, возможно, вам придётся применять физическую силу для того, чтобы усадить его обратно. Но, поверьте, если вы проявите твёрдость, постепенно ребёнок примет это как неизбежность и будет сидеть и думать о том, что он был не прав.

2 **Лишение привилегий.** Лишение того, что ребёнок очень любит делать, – смотреть мультики, играть в определённые игры, есть сладкое, чтение на ночь. В каждой семье свои привилегии, но следите за тем, чтобы у ребёнка было что терять.

3 **Лишение объекта нарушения правил.** Это возможно не всегда, но, если возможно, обычно очень действенно. Он не хочет убирать игрушки? Уберите их сами и поставьте все игрушки в зону его недосягаемости. Дайте ему время подумать, понять, попросить прощения и пообещать, что он больше так не будет.

4 **Игнорирование.** Игнорирование ребёнка должно быть адекватным возрасту. Для двухлетнего малыша – вы можете отказаться, например, с ним вместе играть и будете заниматься только своими делами. При этом нужно постоянно объяснять ему, почему вы не играете с ним.

Для трёх-четырёхлетнего – можете не разговаривать с ним, но каждый раз, когда он к вам обращается, говорите, что не разговариваете с ним по таким-то причинам и что он должен сделать, чтобы вы снова стали с ним разговаривать.

# Стоит ли наказывать детей?

Если ребёнку пять лет или больше, можно один раз сказать, что вы на него обиделись и ждёте извинений и после этого никак на него не реагировать. В любом случае, будьте здесь аккуратны и чутки к своему ребёнку, для него это наказание действительно очень тяжёлое.

5 **Наказание в-шутку.** Такое наказание применимо за совсем несущественные провинности. Например, если сын время от времени забегает в квартиру в грязной обуви, заставьте его 10 раз присесть, повторяя, например, фразу «чистота – залог здоровья!». Так, в шутливой форме можно приучить ребёнка к порядку.

### Относительно физического наказания

Физическое наказание детей следует применять только тогда, когда исчерпаны все другие методы воздействия: убеждение, объяснение неприемлемости его поведения, лишение ребёнка каких-либо преимуществ или удовольствий.

Уже один шлепок по голой попе возымеет эффект. Пусть это не больно, зато стыдно. И все зависит не от силы удара, а от того, как вы преподнесёте это наказание. Опять-таки, всё зависит исключительно от вас.

Физическое наказание детей тем действеннее, чем младше ребёнок. Оно неприемлемо по отношению к подросткам и к детям, чьё неправильное поведение обусловлено болезнью.

Физическое наказание правомерно, если поведение ребёнка представляет угрозу для его жизни и здоровья. Например, ребёнок, зная правила поведения на дороге, назло родителям перебегает улицу перед машинами.

Если поведение ребёнка угрожает жизни и здоровью окружающих (игра с огнем, драки с более слабыми детьми).

Если ребёнок сознательно и целенаправленно нервирует родителей или других членов семьи, не способных постоять за себя (например, младших детей).

Американсий психолог Кэмпбелл не рекомендует частые телесные наказания потому, что они нарушают формирование совести у ребёнка. Телесное наказание унижает его. У него не формируется здоровое чувство вины, которое становится внутренним ограничителем шалостей. А вместо этого появляется страх наказания. Излишнее чувство вины вредно для нормального психического развития малыша.

> **В основе любого действия должна лежать безусловная родительская любовь – любовь к малышу независимо ни от чего!**

Ребёнок начинает чувствовать, что агрессивный способ обращения с людьми – это норма и что быть агрессивным – правильно. Впоследствии он так же станет воспитывать своих детей.

**Но ещё раз хочется подчеркнуть:** физические наказания следует применять только в крайнем случае и только в такой форме, которая не нанесёт ни физического, ни психологического вреда вашему ребёнку! В вопросе физического наказания важна мера и уместность.

**Ну и конечно же, не забывайте о похвале и поощрении.** Похвала имеет еще большее значение, чем наказание. Ведь ее цель – сделать ребёнка лучше, в то время как наказание направлено просто на остановку и предотвращение плохого. Так что не скупитесь на комплименты своим детям.

Каждый ребёнок хочет радовать своих родителей. Каждый (не сомневайтесь) чувствует себя просто счастливым, когда мама или папа остаются им довольны. Введите себе правило каждый день хвалить ребёнка за что-то, найдите это «что-то», присмотритесь.

И в заключение хотелось бы сказать, что с точки зрения психологии слова Папы Франциска – «Шлёпать детей можно, нельзя их унижать» – абсолютно верны и отражают современное отношение к физическому наказанию детей.



# Развважаем над Божым словам

**Развважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**22 лютага 2015 г. Мк 1, 12-15**

Езус, намашчаны Святым Духам, выконвае волю Айца. Будуе Божае Валадарства. Ён заклікае людзей, каб адвярнуліся ад усяго, што перашкаджае ім жыць у еднасці з Богам. Заахвочвае прыняць Евангелле – гэта значыць, Добрую навіну пра тое, што Бог хоча быць у іх, паміж імі і з імі. Езус будуе новы рай – Божае Каралеўства. Непрыяцель-д'ябал спрабуе адвесці Езуса ад волі Айца. І сёння працягваецца змаганне за душы людзей. Езус – Пан і Пераможца. Яму служаць анёлы. Д'ябал, дзе можа, стараецца перашкодзіць у будаўніцтве Божага панавання.

*– Хто Пан майго сэрца? У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці з'яўляецца маё сэрца месцам прабывання Бога і Яго валадарства?*

*– Ці кіруе маім жыццём права майго Пана – Езуса Хрыста?*

*– Якое права кіруе маімі пастановамі, думкамі і ўчынкамі?*

*– Якім чынам спакушае мяне шатан, каб я адышоў ад еднасці з Хрыстом?*

*– Якімі сродкамі карыстаюся, каб супрацьстаяць шатану?*

*– Ці дазваляю, каб Езус змагаўся за мяне?*

*– А можа, думаю, што я сам спраўлюся і што толькі я з'яўляюся панам свайго сэрца?*

*– Ці змагаюся за Божае валадарства з даверам да Езуса?*

*– Ці звяртаюся з просьбай пра дапамогу да анёлаў і святых?*

*– Ці супрацоўнічаю ў справе будавання Божага валадарства з Касцёлам, са святарамі, з братамі і сёстрамі?*

*– Ці цаню прысутнасць Бога ўва мне і ў маім жыцці?*

**1 сакавіка 2015 г. Мк 9, 2-10**

Езус аб'яўляе сваю хвалу вучням. На гары Табор яны былі ў небе, а неба было сярод іх. Неба – гэта Божая прысутнасць. Божае Валадарства, якое абвяшчае Езус, – гэта Божая прысутнасць у сэрцах вучняў і паміж імі. Езус абвяшчае і будуе Божае валадарства. Ён дазваляе вучням убачыць ззянне славы Яго Боскасці, каб падрыхтаваць іх на час выпрабавання, якім будзе Яго Крыжовая смерць. Прадказвае Сваё Змёртвыхпаўстанне і тое, што Ён Валадар і Ён пануе над часам.

*– Ці не забываю сярод штодзённых спраў, што я з Богам, а Ён са мной?*

*– Ці цаню дар Яго прысутнасці ў маім сэрцы?*

*– Ці шукаю Яго ў Эўхарыстыі, у Божым слове, у Сакраманце пакаяння?*

*– Ці бачу Божую прысутнасць у супольнасці Касцёла, у жыцці любімых людзей, у сваім сужэнстве і сям'і, у жыццёвых выпрабаваннях і цяжкасцях?*

*– Ці давяраю сваё жыццё Богу?*

*– Ці хачу жыць паводле Яго волі?*

*– Ці слухаю Божае слова з намерам знайсці ў ім мудрасць, суцяшэнне, параду?*

*– Ці ўсведамляю, што Езус – Валадар гісторыі і што калі не пакіну Яго, то не прападу?*

*– Ці веру, што Ён дапаможа ў маіх бедах?*

*– Ці дазваляю Яму дапамагаць так, як Ён хоча і калі хоча?*

*– Ці давяраю Яму?*

**8 сакавіка 2015 г. Ян 2, 13-25**

Езус добра ведае наша сэрца. Ён майстра чалавечай душы. З асаблівай руплівасцю і пільнасцю Ён клапоціцца пра празрыстасць і чысціню чалавечага сэрца. Крывадушнасць, хлусня і таптанне святасці – гэта вельмі небяспечныя хваробы сэрца чалавека. Езус – лекар нашага сэрца – рашуча змагаецца за чыстасць Божага культу. Ён – жывы Бог – з'яўляецца цэнтрам новага культу. Ён, Яго смерць і Змёртвыхпаўстанне – гэта новая святыня і новы закон. Ён мае права судзіць сумленне людзей і вучыць іх сапраўднаму пакланенню Богу.

*– Што заглушае шчырасць маёй малітвы?*

*– Якія справы, занняткі, грахі, спакусы перашкаджаюць мне спакойна і з адвагай паглядзець у вочы Бога?*

*– Можа, гэта пабожныя, але не да канца згодныя з Божай воляй занняткі, справы і абавязкі?*

*– Можа, я прыкрываюся добрымі справамі і раблю штосьці, што перашкаджае выконваць Божую волю?*

*– Ці часта раблю рахунак сумлення?*

*– Ці гатовы я падкарэктаваць свае планы, калі яны не зусім супадаюць з Божымі?*

*– Ці рашуча змагаюся за першынство Бога ў маім жыцці?*

*– Ці прашу Езуса і ці дазваляю Яму разагнаць бараноў, якіх я развёў у сваім сэрцы?*

**15 сакавіка 2015 г. Ян 3, 14-21**

Бог хоча нашага збаўлення. Ён памёр і ўваскрос, каб мы маглі жыць вечна. Гэта знак Божай любові. Сёння адбываецца вырашальная падзея ў нашым жыцці. Калі мы верым і паступаем паводле волі Езуса, то з'яўляемся дзецьмі святла і праўды. А Божы суд прысуджае нам збаўленне ў небе. Калі не верым Езусу, не выконваем Яго волі, а выбіраем цемру, хлусню і дрэнныя ўчынкі, то прысуд – вечнае пакараннне ў пекле.

*– Ці веру, што Бог мяне любіць?*

*– А можа, праз свае дрэнныя учынкі я страціў надзею на сваё збаўленне?*

*– Ці жыву ў праўдзе?*

*– А можа, няшчырасць перад Богам прывяла да страты святла надзеі?*

*– Ці разумею, што шчырая споведзь і жыццё ў праўдзе (нават цяжкай, але праўдзе) – гэта дарога святла і Божага дзеяння ў маім сэрцы?*

*– Ці разумею, што маё вечнае жыццё непасрэдна звязана з маімі сённяшнімі стасункамі з Богам?*

*– А можа, бясконца ўцякаю ад сённяшняга дня і падманваю сябе абяцаннем будучай вернасці Богу?*

*– А можа, супакойваю сваё сумленне ілжывымі апраўданнямі?*

*– Што я раблю, каб жыць у праўдзе?*

*– Ці памятаю, што маё збаўленне – у Богу і ў прабыванні ў святле Яго прысутнасці?*

Развважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

